**УВАГА! Наша дабрачынная акцыя — сённяшні спецвыпуск "ЧЗ", прысвечаны праблемам дзяцей-інвалідаў і сірот.**




БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЫРВОНАЯ Змена

ВЫДАЕЦЦА З 1921 ГОДА

ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ

№ 40 (13572)

28 верасня — 4 кастрычніка 1992 года

Кошт 3 рублі.


"Уявіце сабе жанчыну з малым на руках, якую прыкладамі аўтаматаў выштурхнулі ноччу з роднага дому проста ў нікуды. І тады ўсе вашы няшчасці пададуцца вам нязначнай дробяззю", — прачытала некалі і запомніла фразу, якая ўразіла сваёй праўдзівасцю. Што грошы? Што чэргі? Што сваркі? Што здрады? Мітусня... Мітусня ў параўнанні з тым, што чыясьці дачка не ўстае з ложка васемнаццаць год, прыкаваная да яго цэрэбральным паралічам. А маці кожную раніцу заходзіць да яе ў пакой з адзінай думкай: ці жывая?

Божа, калі ты ёсць, дай нам сілы перанесці тое, што мы не ў стане змяніць, і змяніць тое, што мы не ў стане перанесці.

...Вера Пастэрнак таксама ўжо нічога не можа змяніць, не можа вярнуць назад той дзень, калі з ёю здарылася бяда, не можа пераджыць яго нанова, зусім па-іншаму... Чаго вартыя нашы душэўныя ваганні, ідэйныя шуканні, глабальныя праблемы і матэрыяльныя здабыткі ў параўнанні з тым, што трынаццацігадовая дзяўчынка ходзіць у школу на мыліцах?

Няма на свеце нічога больш вартага, больш каштоўнага, чым здароўе і жыццё чалавека. Асабліва, калі жыццё гэта ён толькі пачынае.

Верачка вельмі любіць жывёлу, бо, магчыма, вастрэй за многіх з нас адчувае бездапаможнасць чацвераногіх істот. А ў вольны ад заняткаў час працуе ў малым прадпрыемстве "Саіл" — шые для дзяцей мяккія цацкі... У яе добры твар і прыгожыя вочы. Няхай і ў жыцці Веры будзе больш такіх дзён — добрых і светлых. Дай Бог ёй сілы перанесці тое, што яна ўжо не ў стане змяніць.

Наталля СТРАЛКОВА.
Фота С. БРУШКО.

## SOS! ІМ ПАТРЭБНА ВАША ДАПАМОГА. SOS!

*213760 г.Асіповічы, Магілёўскай вобл., сярэдняя школа для дзяцей з вынікамі поліеміеліту і цэрэбральнымі паралічамі. Тэл.2-42-61.*

*г.Мінск, вул.Севастопальская, 56, школа № 14 для глухіх дзяцей. Тэл.64-83-65.*

*231100 Гродзенская вобл., г.Ашмяны, пас.Школьны 4, школа для глухіх дзяцей. Тэл.2-22-98.*

*231982 Гродзенская вобл., Свіслачкі раён, г/п Поразава, вул.Я.Коласа 3, школа для слабачуючых дзяцей.*

*213760 г.Асіповічы, Магілёўская вобл., вул.Сташкевіча, 29, Асіповіцкі дзіцячы дом. Тэл.2-33-48.*

*213823 г.Бабруйск, вул.Мінская, 74, Бабруйская школа-інтэрнат № 2 для дзяцей-сірот.*

Падпіска-93

# АБ'ЕКТЫЎНЫ СУБ'ЕКТЫЎ

Што ўплывае на папулярнасць таго ці іншага выдання? Традыцыйны адказ на гэтае пытанне задаволіць, бадай, многіх: талент журналістаў, якія ў гэтым выданні працуюць, іхняя сумленнасць і бескампраміснасць, а таксама смеласць і рашучасць рэдактара.

Зразумела, без гэтага нельга. Але вось з ліста нашага — відаць, цяпер ужо былога — чытача Г.Чарнуша з Новалукомля выяўляюцца і іншыя, больш уплывовыя (гэтак званыя суб'ектыўныя) прычыны:

"Па-беларуску я загаварыў параўнальна нядаўна, хоць пражыў ужо трэць стагоддзя. Прычыны, мяркую, ясныя для ўсіх. Але беларуская прэса пасялілася ў маёй хаце значна раней. Дзесьці ў канцы 80-х. Калісьці чытаў "Комсомолку", "Литературку" і ўсё часцей пад уплывам падзей задумваўся: што гэта ўсе гавораць пра нейкія разагнаныя мітынгі, нейкае змаганне, нейкія дзеянні тут, побач, а я, хоць актыўна чытаю прэсу, нічога не ведаю. І вось тады, здаецца ў 1988-м, адзін мой беларускамоўны знаёмы кажа: "Дык што дзівіцца, калі ты чужую прэсу чытаеш, вось таму ў галаве тваёй усё чужое". Мне гэта здалося лагічным і з таго часу паспрабаваў выпісаць "ЛіМ", "Чырвонку", "Голас Радзімы" — па парадзе таго ж сябра. Пошук сваіх выданняў працягваўся, але з "Чырвонкай" я пасябраваў, здавалася, назаўсёды. Але вось аб'явілі падпіску на 1993 год. "Чырвонай змены" чамусьці ў каталозе не было. Газеты цяпер дарагія, і трэба было спыніцца на чымсьці адным. Цэлы тыдзень чакаў, што там з газетай, але час наш такі, што няцяжка і паверыць, што якоесьці выданне спынена. Нарэшце падпісаўся на "Звязду", бо "ЛіМа" таксама ў каталозе не было. А тут нядаўна даведваюся, што пад канец жніўня трапілі ў каталог і мае любіміцы. Дык што ж гэта за непрыкметны прэсінг на мой выбар?"

Сітуацыя, апісаная ў лісце Г.Чарнуша, пацвердзілася фактамі ў кампетэнтных інстанцыях, куды быў накіраваны наш карэспандэнт.

Апрацоўшчык Савецкага райаддзялення "Саюздруку" г.Мінска Ала Стош паведаміла:

— Падпіска ўсюды распачалася крыху пазней, чым калісьці — з 10 жніўня. Але звесткі пра "Чырвоную змену" прыйшлі да нас толькі 19 жніўня, пра "ЛіМ" — яшчэ пазней, 29-га.

Тое самае нам паведаміла на Галоўпаштамце В.М.Крыжаноўская, якая там займаецца падпіскай. Але разам з тым і паспрабавала "усяліць аптымізм":

— Вы не хвалюйцеся. З уласнага вопыту я ведаю, што пік падпіскі заўсёды прыпадае бліжэй да ейнага фіналу.

Праўда, калі грунтаваць аптымізм на статыстыцы, падставы для яго знікаюць менавіта для прыхільнікаў тых выданняў Беларусі, якія выходзяць на ейнай дзяржаўнай мове. Са статыстыкай нас пазнаёмілі тут жа, на паштамце, у аддзеле распаўсюджвання прэсы. Вось што гаворыць кіраўнік аддзела А.І.Чарняк:

— Хоць усе знаёмыя з праблемай новых каталогавых коштаў на падпісныя выданні, але стан падпіскі ў Беларусі сёлета складае ўжо 122% у параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года менавіта на рэспубліканскія выданні. Відаць, людзям усё больш цікавая не замежная інфармацыя, а падзеі ў сваёй рэспубліцы. А што да моўнай сітуацыі, дык аптымізм выклікаюць толькі дзеці: паводле стану на 15 верасня, амаль зраўнялася колькасць падпісчыкаў на рускамоўную "Зорьку" і беларускамоўны "Піянер Беларусі". Стан жа "ЧЗ" разоў у дзесяць горшы за ейнага рускамоўнага адпаведніка, але вы самі вінаватыя, што позна вызначылі свой кошт.

Я разумею, што чалавек мог гаварыць шчыра, не ведаючы пра тое, што менавіта ейнае больш высокае начальства не дазваляла "Чырвонай змене" зафіксаваць той кошт у каталозе, які быў бы па кішэні нашаму маладому чытачу. Ды і пасля перападпісных баталій "прызавыя месцы" падпіскі размеркаваліся не паводле мовы, а паводле кошту: самая танная "Звязда" апярэджвае крыху даражэйшую "Знаменку" ажно ў чатыры разы, затое нашая дарагая "Чырвонка" гэтымі суб'ектыўнымі прычынамі адкінутая амаль на ніз табліцы. Дзякуй Богу, што хоць "амаль".

Уплываюць суб'ектыўныя прычыны не толькі на падпіску, але і на розніцу. Агенцтва "Саюздрук" бярэцца распаўсюджваць у сваіх кіёсках пяток тысячаў экземпляраў "Чырвонкі", але каля 30—40% вяртае на спісанне. І гэта пры процьме скаргаў з розных куткоў Беларусі, што немагчыма купіць газету. Наш мінскі чытач К.Баравец сваю тэлефонную скаргу пачаў так: "Чаму я, жыхар сталіцы рэспублікі, каб купіць вашую газету, павінен з вуліцы Волаха, дзе жыву, ехаць да праспекта Скарыны, а то і яшчэ далей?"

Вось такая рэальнасць: попыт ёсць, а продажу няма. Толькі і застаецца ўзяцца за распаўсюджанне сваёй газеты самім журналістам. Але ж хто пісаць тады будзе? Тым не менш, не ўсё яшче страчана: да канца падпіскі ў вас, шаноўныя чытычы, яшче ёсць час, каб выпісаць "Чырвоную змену" на наступны год.

Таццяна МАРЦЫНЕНКА.



## ЭХ, БУЛЬБАЧКА!

Штодня каля трыццаці навучэнцаў Клімавіцкага прафесійна-тэхнічнага вучылішча № 214 прыязджаюць дапамагаць убіраць бульбу ў калгас імя Янкі Купалы, што ў Клімавіцкім раёне.

— Ужо некалькі тыдняў, як тут працуем. Сабралі клубні з дзесяці гектараў,— расказвае кіраўнік групы, майстар вучылішча Тамара Васільеўна Растоўская, якая, дарэчы, працуе нароўні з дзяўчатамі.

— У сярэднім за дзень кожная з дзяўчат падбірае не менш 600 кілаграмаў бульбы, а таму і аплата адпаведная — не менш 120 рублёў у дзень,— дадае старшыня прафсаюзнага камітэта гаспадаркі Пётр Якаўлевіч Бялясаў.

Поруч з навучэнцамі ПТВ працуюць вучні Лабжанскай сярэдняй школы.

Ураджай у раёне не такі ўжо і дрэнны: з асобных участкаў бульбяных плантацый тут збіраюць да 140 цэнтнераў з гектара.

І.ЛАПО.

Фота. І.ГУЛЕВІЧА.

*Юбілеі*

## ГАЗЕЦЕ "ЗВЯЗДА"— 75!

Учора, першага кастрычніка, беларуская газета "Звязда" адзначала свой юбілей: 75 год з дня выхаду ў свет першага нумара. Мяняліся час, улада, людзі, мянялася і "Звязда". А чым жыве газета сёння?

На гэта пытанне адказвае Міхаіл Васільевіч Міхаевіч, першы намеснік галоўнага рэдактара газеты "Звязда":

— Наша газета была, ёсць і, спадзяёмся, будзе. Нельга дапусціць, каб яна (ці іншыя беларускамоўныя газеты) не выжылі ва ўмовах рынку.

Зараз мы поўнасцю змянілі наш накірунак і адносім сябе да левацэнтрысцкіх газет. Мы стараемся гаварыць праўду пра ўсё, незалежна ад таго, пра каго ці пра што мы гаворым: хай гэта БНФ ці камуністы, урад ці сацыял-дэмакраты. Людзі павінны ведаць, што нясе ім тая ці іншая партыя.

Але не трэба думаць, што "Звязда" — гэта газета толькі для палітыкаў. Зараз у нас уводзяцца новыя рубрыкі па культуры, гісторыі і г.д. Гэтыя рубрыкі арыентаваны на моладзь, якая (у адрозненне ад людзей сталых) не заўсёды ведае пра мінулае.

Адным словам, хочам, каб "Звязду" чыталі ад піянераў да пенсіянераў.

Як бачым, калектыў "Звязды" паспяхова спраўляецца са сваімі задумкамі, планамі. Поспехаў вам, "звяздоўцы"! "Чырваназменаўцы" віншуюць вас з юбілеем!

*Дабрачыннасць*

## БЕЗ БАЦЬКОЎ, ЗАТОЕ З СЯБРАМІ

З 7 па 13 верасня ў аздараўленчым лагеры "Зубраня" праходзіў другі рэспубліканскі фестываль "Спорт і мастацтва" выхаванцаў дзіцячых дамоў і школ-інтэрнатаў для дзяцей-сірот і дзяцей, пакінутых без папячыцельства бацькоў.

Свята для рабят нарадзілася па ініцыятыве Дзяржкамспорту 4 гады таму і стала традыцыйным. За гэты час са Спартланды яно перарасло ў свята спорту і мастацтва. Многія арганізацыі і фонды аб'ядналі свае намаганні, каб у наш нялёгкі час не разбурылася гэтая добрая традыцыя, і дзеці мелі магчымасць прыехаць на свята, якога яны чакалі цэлы год.

Беларускае бюро рэспубліканскай піянерскай арганізацыі прадаставіла ў распараджэнне выхаванцаў дзіцячых дамоў і школ-інтэрнатаў на тыдзень бясплатна свой аздараўленчы лагер "Зубраня". Дзяржкамспорт узяў на сябе асноўныя фінансавыя расходы па арганізацыі і правядзенню фестывалю. Расходы на транспарт, падрыхтоўку каманд, прызы пераможцам узялі на сябе органы адукацыі. Вельмі шмат сіл, творчасці і энергіі ўклалі ў арганізацыю і правядзенне свята дацэнты кафедры фізвыхавання і спорту Леанід Дварэцкі, Анатоль Дубінін і Рыгор Співак.

Дзіцячы фонд паклапаціўся пра тое, каб усе ўдзельнікі фестывалю атрымалі прызы.

Лаўрэаты фестывалю былі ўзнагароджаны прызамі спонсараў, якімі сталі ВА "Гарызонт", ВА "Прамень", фонд "Дзецям Чарнобыля", фонд Міру.

Пераможцамі сталі каманды Бабруйскай, Ветранскай і Ястрэбельскай школ-інтэрнатаў. Дзеці, развітваючыся, плакалі...

Г. РУДЗЯНКОВА.

*Не проста лічбы*

## ПРАВА НА БЯСПРАЎЕ?

За скупымі лічбамі, якія вы знойдзеце ў гэтым матэрыяле, стаяць лёсы дзяцей, многія з якіх на самым пачатку свайго жыцця ўжо спазналі горкае слова "сіроцтва".

Усяго ў нашай рэспубліцы налічваецца 163 (!) дзіцячыя дамы і школы-інтэрнаты. У іх знаходзіцца звыш 26 тысяч 600 дзяцей (6940 з якіх — сіроты). На Беларусі — 13 дзіцячых дамоў для глухіх дзяцей і шэсць — для сляпых (адпаведна ў іх 2026 і 998 выхаванцаў). У гэтых маленькіх людзей няма амаль ніякай надзеі на тое, што ў іх калі-небудзь будзе свая сям'я, свой дом, работа...

У нас ёсць, канешне, людзі, якія хочуць ўзяць на выхаванне да сябе ў сям'ю маленькага чалавечка. Але многія выбіраюць дзіця, нібы рэч у краме. Што ж, іх можна зразумець: усе яны хочуць, каб іх сын ці дачка былі "на ўсе сто". За мінулы год у сем'і ўладкавана 2472 чалавекі. Раней гэта лічба была меншай. І толькі пасля таго, як у лютым 91-га Вярхоўны Савет нашай рэспублікі прыняў пастанову аб пашырэнні норм і льгот сіротам не толькі на дзяцей са школ-інтэрнатаў, але і на тых, хто выхоўваецца ў сем'ях, колькасць усынаўленняў павялічылася. Так, з мая бягучага года лічба матэрыяльнай дапамогі на аднаго чалавека была на дзяцей дашкольнага і школьнага ўзросту адпаведна 2340 і 3280 рублёў у месяц (у першы год выхавання) і 1960 і 2500 рублёў у месяц (у наступныя гады). Людзям, якія бяруць дзяцей на выхаванне, прысвойваецца статус апякунскай прыёмнай сям'і з выплатай вышэйуказанай грашовай дапамогі і прадастаўленнем розных ільгот (якіх — вырашае райвыканкам). Па дадзеных на першага студзеня гэтага года, на апецы ў розных сем'ях знаходзілася 10329 дзяцей. Не ўсе яны сіроты (чыесьці бацькі — у камандзіроўках, чыесьці займаюцца ўладкаваннем асабістага жыцця, чыесьці знаходзяцца ў турме).

...Адны сем'і разбураюцца, другія ствараюцца. Так, за мінулы год 783 дзіцяці адабраны ў бацькоў, пазбаўленых бацькоўскіх правоў, на пачатак гэтага года зарэгістравана 2014 ненадзейных сямей, чые дзеці могуць стаць сіротамі пры жывых бацьках. У той жа час на Беларусі маецца 18 дзіцячых дамоў сямейнага тыпу (так называецца сям'я, якая ўзяла на выхаванне больш пяці дзяцей). Толькі ў Мінску 428 сямей атрымалі статус "апякунскай". На пачатак 1992 года ў нашай рэспубліцы ўсыноўлена 15 тысяч 003 чалавечкі (8400 з іх — мачахай або айчымам).

Як бачым, не ўсе дзеці застаюцца ў дзіцячых дамах і школах-інтэрнатах. Але большасць усё ж адпраўляецца ў сваю дарогу па жыццю са сцен менавіта гэтых установ. Што іх чакае наперадзе — здагадацца няцяжка (асабліва калі ўспомніць, што частка гэтых людзей з фізічнымі ці нават псіхічнымі парушэннямі). І знайсці праўду ў нашым вар'яцкім свеце ім будзе вельмі і вельмі нялёгка.

Застаецца толькі дадаць, што на асеннюю сесію Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь будзе вынесены Закон аб правах дзіцяці.

Франц ЛЯВІЦКІ.
Тэл.32-13-04.

*Стоп-факт*

## А.РАЗІН ДУМАЕ ПРА БЕЛАРУСЬ

На мінулым тыдні студэнты факультэта журналістыкі Белдзяржуніверсітэта прымалі гасцей: журналіста Паўла Якубовіча і куміра "папсы" Андрэя Разіна. У ходзе сустрэчы студэнты задалі нямала пытанняў, якія датычыліся ў асноўным журналісцкай творчасці,і ў прыватнасці, газеты "Ласкавы май".

А.Разін, адказваючы на пытанні, расказаў пра гісторыю стварэння і творчасць групы "Ласкавы май", пра тое, што думае перабірацца ў Беларусь, на радзіму яго бацькі, каб з'явіцца не толькі на эстрадных падмостках, але і на палітычнай арэне.

Рыгор ВАЛНЕНКА.

## Да ведама падпісчыкаў на "Бібліятэку жаночага рамана"!

Рэдакцыя газеты "Чырвоная змена" і газетна-выдавецкая фірма "Белая Русь" прыносяць падпісчыкам свае прабачэнні за затрымку ў выпуску "Бібліятэкі", звязаную з рэзкім скачком цэн і разбалансаванасцю эканамічных сувязяў. Паведамляем, што першыя дзве кнігі серыі – раманы Дж.Колінза "Мир полон женатых мужчин" і "Мир полон разведенных женщин" – будуць выпушчаны ў кастрычніку гэтага года падвоеным томам. Рыхтуюцца да друку і іншыя раманы "Бібліятэкі". Усе кнігі падпісчыкі атрымаюць па льготным кошце.

*Тэлефон для даведак 32-11-43.*

*Спец-інтэрв'ю "ЧЗ"*

# СЦІШЫЦЬ БОЛЬ

## СЛОВАМ І, БЕЗУМОЎНА, СПРАВАЙ

У гэтай падкамісіі Вярхоўнага Савета Беларусі ёсць неабсяжная прастора для журналісцкай дасціпнасці. Лісты скаржнікаў, абярэмкі вострых праблем карэспандэнты могуць вывозіць адсюль цэлымі вазамі. Ад прыватных лёсаў да выхадаў на вялікую палітыку — тэмаў тут процьма. Але гэты публіцыстычны "Клондайк" не толькі не прыцягвае, але й, відаць, адпуджвае "чацвёртую ўладу" неабходнасцю не проста напісаць, а таксама хоць нештачка зрабіць, чымсьці дапамагчы. Канешне, слова — таксама справа, слова — часам зброя, але сёння дзейснасць газетнага радка зведзена ледзь ці не да скалананння паветра і казытання сапсаваных нерваў чытачоў. Рэдакцыі па звычцы дасылаюць крытычныя артыкулы ў разнамасныя інстанцыі (каб атрымаць так званыя "рэагажы") і... усё скончваецца, у рэшце рэшт, або маўчаннем, або адпіскай.

— Да праблемаў інвалідаў, — распавядае Уладзімір Васільевіч Чувічка, — ад пачатку перабудовы прыцягнута вялізная грамадская ўвага. Гэткай увагі інваліды нашай краіны ніколі раней не зведвалі на сабе. Але ад плоймы слоў, якія нічога не змяняюць у жыцці, толькі мацнее боль.

Тут мы павінны перапыніць словы Уладзіміра Васільевіча і заўважыць, што гаворка ідзе пра парламенцкую падкамісію па справах інвалідаў — засек горычы, болю, гневу і... непераможнай цярплівасці. У.Чувічка працягвае надалей.

— Ваш суразмоўнік — інвалід з дзяцінства. Я накаштаваўся горкага інвалідскага хлеба ажно да слёз. Цяпер жа імкнуся дапамагчы іншым гаратліўцам.

**– Уладзімір Васільевіч, што канкрэтова робіць падкамісія, каб палегчыць лёс інвалідаў?**

— Асноўная мэта нашай падкамісіі стварыць адпаведны заканадаўчы падмурак, на якім і будзе грунтавацца ўся палітыка дзяржавы па дапамозе інвалідам. А тое, што гэта менавіта палітыка і вялікая палітыка — не сумнявайцеся. Аніякая палітычная сістэма не займее будучага, калі не паставіць на першае месца інтарэсы найменш абароненых слаёў насельніцтва: інвалідаў, старых, дзяцей, жанчын. Паўтараю, перабудова прыцягнула ўвагу грамадскасці да праблемаў ейных колішніх ізгояў, прымусіла загаварыць пра іх на поўны голас, але... Гэтаксама як і шмат іншых, узнятых падчас галоснасці "цалкоў", праблему інваліднасці "загаварылі".Аднак, як бы ні крытыкавалі беларускі парламент, ён усё-ткі зрабіў пэўны задзел, у прыватнасці — для дапамогі інвалідам. Па шчырасці, не было б у вышэйшым органе ўлады прадстаўнікоў ад арганізацыі інвалідаў, відаць, няхутка б мы займелі той жа закон "Аб сацыяльнай абароне інвалідаў", прыняты ў лістападзе мінулага года на сесіі Вярхоўнага Савета рэспублікі. Асноўная канцэпцыя гэтага закона — стварыць чалавеку максімальную магчымасць, незалежна ад прычын і вынікаў інваліднасці, так бы мовіць, інтэгравацца ў грамадства. Прафілактыка інваліднасці, выхаванне, адукацыя, прафесійная падрыхтоўка, гарантыя працаўладкавання — гэтыя і іншыя болевыя праблемы ахоплены вышэйпамянёным законам. Абавязак нашай падкамісіі ня толькі ў заканадаўчай дзейнасці, а таксама ў кантролі за выкананнем закона. Кожны закон запатрабоўвае пэўнага механізму ажыццяўлення. Гэткім апасродкаваным механізмам павінны стаць нарматыўныя акты, прынятыя ўрадам.

**– Ці можаце вы сказаць, што на сённяшні дзень такая сістэма нарматыўных актаў створана і закон "Аб сацыяльнай абароне інвалідаў" дзейнічае?**



— З боку Саўміна хацелася б бачыць больш дынамікі ў ажыццяўленні літары. закона. Асабліва гэта тычыцца абароны інвалідаў ад жорсткіх наступстваў інфляцыі. Неабходна, каб урад не толькі ўлічваў рост цэн і кампенсаваў іх ужо "па факту" гэтага росту, а распрацоўваў адпаведныя прывентыўныя, папераджальныя меры. Толькі апошнія змогуць перапыніць рэзкае зніжэнне ўзроўню жыцця інвалідаў. Такія захады не робяцца і, як вынік, — вялізны прыток скаргаў, лістоў у Вярхоўны Савет, у нашу падкамісію ў прыватнасці.

Заўважу, што пры фармальнай адпаведнасці тэрмінам рэагавання на той ці іншы запыт у Саўміна адчуваецца ігнараванне зместу самой справы. Так створаная Рэспубліканская міжведамасная рада па праблемах інвалідаў на чале з першым намеснікам старшыні Саўміна мела толькі адно пасяджэнне. Такім чынам фармальна яна быццам бы існуе, а рэальных вынёскаў ейнай працы не знойдзеш днём з агнём. Створаны фонд сацыяльнай абароны інвалідаў. І ён стаў усяго толькі мёртванароджаным дзіцем. Такім чынам ідзе не выкананне закона, а бюракратычнае функцыяніраванне. Апошняе ня здольна і не зацікаўлена ў канкрэтнай дапамозе кожнаму канкрэтнаму чалавеку. Людзі ходзяць па калідорах і безвынікова грукаюць у дзверы высокіх кабінетаў. Пакуль урэшце не дабяруцца да нашай падкамісіі.

**– Ці маеце вы статыстыку пра колькасць інвалідаў у нашай рэспубліцы і якую частку сярод іх займаюць дзеці-інваліды?**

— Сёння ў рэспубліцы каля 4 тысяч інвалідаў, у тым ліку інвалідаў з дзяцінства — 33 тысячы. Сярод апошніх, дзяцей ва ўзросце да 16 гадоў налічваецца каля 13 тысяч. Калі дадаць, што з жыццём інваліда звязана жыццё яшчэ аднаго-двух чалавек, то няцяжка падлічыць: да праблемы інваліднасці мае непасрэднае дачыненне чацвёртая частка насельніцтва рэспублікі.

**– Прыгадваю, падчас перадвыбарнай кампаніі аніводзін кандыдат у дэпутаты не абыходзіў у сваёй праграме дапамогу інвалідам. Сёння ж на гэтыя праблемы былыя кандыдаты, а цяпер – дэпутаты, часам папросту забываюцца. Як вы лічыце, ці неабходна нашаму парламенту зноў узняць пытанне аб прадастаўленні квоты на выбарах "інвалідскім" арганізацыям?**

— Лічу, інвалідам яшчэ гадоў дзесяць неабходны ўласныя прадстаўнікі ў парламенце. Напрыклад, канкрэтовая праблема — бясплатны праезд у грамадскім транспарце. Падчас абмеркавання гэтай ільготы Мінфін узняўся і сказаў: няма грошай. Не было б прадстаўнікоў падкамісіі падчас гэтага выпадку, хто ведае, якія б мы вынікі сёння мелі.

**– Зразумела, найбольшыя цяжкасці звязаны са значнымі фінансавымі выдаткамі...**

— Канешне, раней тая ж дапатопная мотакаляска каштавала каля двух тысяч рублёў, сёння — 100 тысяч. Аўтамабіль "Запарожац" у сваім кошце сягнуў ад 2-3 тысяч да 200 тысяч. Падскочылі цэны на пратэзы, мыліцы. Раней, маючы дзіця-інваліда, бацькі імкнуліся набыць нейкі транспартны сродак. Сёння гэта амаль немагчыма нават са скідкай. Ім гэта абыдзецца ў 100 тысяч рублёў.

Мы прыхапілі ў камісіі некалькі лістоў з ледзь ці не крыкам аб дапамозе, менавіта матэрыяльнай дапамозе, каб надрукаваць іх у спецвыпуску нашага штотыднёвіка, прысвечанага дзецям-інвалідам. Да вышэйсказанага Уладзімірам Васільевічам дадамо наступнае: толькі што скончаны разгляд у другім чытанні закона "Аб дзяржаўных дапамогах сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей". На Кансультатыўным савеце закон атрымаў падтрымку і ўключаны ў парадак дня маючай адбыцца сесіі парламента. Упершыню ў артыкуле 2 вылучаны як асобныя віды дзяржаўнай дапамогі — матэрыяльная дапамога, звязаная з доглядам за дзіцем-інвалідам да 16 гадоў і санаторна-курортным лячэннем дзяцей-інвалідаў. У артыкуле 19 адзначана, што непрацуючая маці ці бацька атрымлівае на кожнае дзіця-інваліда 100 працэнтаў мінімальнай заработнай платы, незалежна ад стажу.

Горка заўважаць, але факт застаецца фактам: колькасць інвалідаў у рэспубліцы расце, асабліва сярод дзяцей. І дзяржаве танней за ўсё выдаткоўваць грошы на прафілактыку інваліднасці, ахову здароўя людзей, харчаванне і ўвогуле паляпшэнне дабрабыту свайго народа.

Гутарку вяла
Алена АГІБАЛАВА.

# ЗВАРОТ

Спадары, да Вас звяртаюцца члены Асацыяцыі бацькоў дзяцей-інвалідаў (АБДІ) г.Мінска, якія маюць дзяцей, хворых на цэрэбральны параліч. На жаль, нашыя дзеці не атрымліваюць дастатковай медыцынскай і сацыяльнай дапамогі. Сярод іх існуе вялікая катэгорыя дзяцей з захаваным інтэлектам, але з рухавымі парушэннямі. Пры неабходных умовах яны б маглі кампенсаваць фізічныя недахопы інтэлектуальнай дзейнасцю і ў будучым быць карыснымі грамадству. Мы пераканаўча просім Вас наколькі магчыма дапамагчы нам і нашым дзецям у вырашэнні наступных пытанняў:

1. Стварыць гарадскі рэабілітацыйны цэнтр для дзяцей з ДЦП. Была прынята пастанова аб стварэнні рэабілітацыйнага цэнтра, але ніякіх канкрэтных мер па ягонай рэалізацыі не прадпрымалася.

2. Стварыць новы ці выкарыстаць існуючы санаторый (аддзяленне ў санаторыі) або прафілакторый у Мінскім раёне для лекавання і аздараўлення дзіцяці-інваліда з маці, бо дзяцей, якія нездольныя самастойна рухацца і абслугоўваць сябе, ані дзе на аздараўленне не прымаюць.

3. Улічваючы, што дзіцячы сад № 65 г.Мінска – адзіны, які можа прымаць дзяцей з ДЦП у абмежаванай колькасці, знаходзіцца на ўскраіне горада (Чыжоўка) і не прадугледжаны спецтранспарт для дастаўкі туды дзяцей з парушаным апорна-рухальным апаратам, просім адшукаць магчымасць для адкрыцця спецгруп для дзяцей-інвалідаў у кожным раёне.

4. Арганізаваць спецкласы для дзяцей, хворых на ДЦП з захаваным інтэлектам ці выдзеліць месцы для навучання такіх дзяцей у школе-інтэрнаце № 9 (для дзяцей, хворых на скаліёз), бо дзецям неабходны заняткі ў басейне і ў спецыяльных трэнажорных залах, якія маюцца ў гэтым інтэрнаце.

Каментар ад рэдакцыі: Зварот бацькоў дзяцей-інвалідаў датаваны 28-м студзенем 1992 года. Гэта не першы ліст АБДІ ва ўсе "эшалоны" ўлады і мы, як ні горка гэта ўсведамляць, разумеем – далёка не апошні. Але ў дадзеным выпадку найбольш патрэбныя справы, а не словы. Такім чынам, са студзеня па сённяшні дзень амаль не змянілася становішча хворых на ДЦП дзяцей. Гарадскі рэабілітацыйны цэнтр так і не створаны, адпаведных санаторыя, садка, школкі – няма. Пэўныя крокі робяцца, але гэта толькі драбніцы. Спрабавалі ў Фрунзенскім раёне стварыць садок, ужо і ложкі пачалі расстаўляць – галоўны "санітар" горада, – кіраўнік гарадской санэпідстанцыі, забараніў. Садок № 65 у Чыжоўцы мае групу дзетак хворых на ДЦП, але яна прымае ўсяго 8 чалавек! Гэта ж не выйсце! Апошнім часам з групай энтузіястаў – маладых урачоў-псіхіятраў, АБДІ працуе над стварэннем рэабілітацыйнага цэнтра для дзяцей з глыбокай затрымкай псіхічнага развіцця (апошняя, як вы разумееце, працяг ідэі пункта І з вышэйзмешчанага "Звароту...").

"Чырвоная змена" звяртаецца да Міністэрства аховы здароўя, Мінскага гарвыканкама з просьбай дапамагчы аўтарам ліста. Мы заклікаем узяць удзел у гэтай дапамозе прадпрымальнікаў, кіраўнікоў камерцыйных структур, бізнесменаў: дабрачынная дзейнасць – найлепшая рэклама вашаму бізнесу. Такім чынам, вы, канешне ж, бераце нататнік і запісваеце:

Мінскае гарадское ўпраўленне акцыянернага камерцыйнага Белпрамбудбанка, разліковы рахунак 606408. Код банка 334 МФО 400417. Але перш-наперш неабходна патэлефанаваць па нумару 50-42-90 Рахманавай Нэлі Іванаўне – старшыні Мінскай асацыяцыі бацькоў дзяцей, хворых на ДЦП. Там вельмі чакаюць вашага званка, а галоўнае – дапамогі. Наша газета паклапоціцца аб тым, каб назовы арганізацый і прыватных асоб дабрачыннікаў былі надрукаваны на яе старонках.

# ПРАБЛЕМЫ КОЛЕРУ "ХАКІ"

Пасля набыцця Беларуссю незалежнасці стварэнне нацыянальнага войска стала, без усялякіх нацяжак, справай дзяржаўнай неабходнасці. Змянілася і стаўленне да праблем арміі, на якую ў свой час было выліта нямала бруду, можа не заўсёды справядліва, у тым ліку і праз сродкі масавай інфармацыі. Пацвярджэннем таго, што грамадскасць усур'ёз заклапочана даволі бязрадасным становішчам у беларускай арміі, стала вайсковая канферэнцыя БНФ з удзелам дэмакратычных партый і грамадскіх арганізацый пад назвай "Беларускае войска: сучаснасць і будучыня", што праходзіла 25 верасня ў Палацы мастацтва ў Мінску.

Лейтматывам канферэнцыі, напэўна, стала выступленне Зянона Пазьняка на тэму "Стварэнне нацыянальнага войска і дзяржаўная незалежнасць".

Карупцыя і злачыннасць ваенных чыноўнікаў усіх рангаў, "махровы" антыдэмакратызм вайсковай наменклатуры, гуманітарна-патрыятычнае выхаванне маладых салдат, фізічнае і духоўнае здароўе нашых абаронцаў, вяртанне на радзіму афіцэраў-беларусаў — гэтыя і іншыя пытанні ўздымаліся ўдзельнікамі канферэнцыі. Лідэр БНФ выказаў занепакоенасць тым, што на тэрыторыі Беларусі практычна без усялякіх перашкод дзейнічаюць разведкі многіх краін свету, у тым ліку і былых рэспублік СССР. На думку Зянона Пазьняка, СНД ужо вычарпала свае магчымасці, і найпершымі задачамі для Беларусі з'яўляюцца выхад з СНД і паступовая ліквідацыя "Савецкай арміі" ў рэспубліцы і стварэнне на яе базе ўласнага войска.

Прамоўцамі ад Беларускага згуртавання вайскоўцаў (БЗВ) закраналіся пытанні аб змене сімволікі на форме салдат і афіцэраў, пенсіённым забеспячэнні ваеннаслужачых, якія звальняюцца ў запас.

Прадстаўнікі ўсіх партый і арганізацый, якія прымалі ўдзел у дыскусіях, сышліся ў адным — патрэбны рашучыя крокі па пераўтварэнню войска, ліквідацыя карупцыі і бязладдзя, што пануюць у стане кіруючых армейскіх структур. Прыводзіліся абуральныя прыклады таго, як паважаныя генералы выкарыстоўвалі дармавую сілу салдат тэрміновай службы на будаўніцтве не ваенна-абарончых аб'ектаў, а... уласных пабудоў і дач.

Канкрэтныя прапановы аб рэарганізацыі войска ўносілі і прадстаўнікі Аб'яднанай дэмакратычнай партыі Беларусі (АДПБ). У прыватнасці, яны лічаць, што пасаду міністра абароны павінна займаць толькі цывільная асоба, а вярхоўным галоўнакамандуючым павінен стаць прэзідэнт РБ. Адзначалася таксама неабходнасць увядзення альтэрнатыўнай службы, адмены пачатковай ваеннай падрыхтоўкі ў школах і ПТВ і паступовага пераходу да прафесіянальнага войска, скарацiўшы яго пры гэтым менш чым да 60 тысяч чалавек.

Свае меркаванні наконт пераўтварэння войска выказалі народныя дэпутаты В.Голубеў і Ю.Хадыка, прагучаў таксама і наказ прадстаўніка Беларускай евангельскай царквы. На заканчэнні прысутнымі была прынята выніковая рэзалюцыя.

Сяргей ВІШНЕЎСКІ.

# РАЗРУХА – МАЦІ РУХУ

## Новы кавалак мясцовага шматпартыйнага серыялу

***15 верасня пад нумарам 414 Міністэрства юстыцыі зарэгістравала Рух за тэрытарыяльнае самакіраванне (РТС).***

Асноўнай мэтай Руху з'яўляецца садзейнічанне стварэнню на Беларусі сістэмы тэрытарыяльнага самакіравання, прычым у Статуце сфармуляваны два галоўныя прынцыпы будовы гэтай сістэмы: па-першае, фармаванне бюджэту і вызначэнне паўнамоцтваў мясцовых органаў улады "знізу" і, па-другое, аўтаномнасць у вырашэнні тэрытарыяльных задач.

Адна з галоўных задач Руху — стварэнне праз ягоныя структуры ініцыятыўных груп па месцы жыхарства. У апошніх па закону аб мясцовым самакіраванні і мясцовай гаспадарцы ў Рэспубліцы Беларусь ёсць адпаведныя правы і магчымасці ўплываць на грамадскую думку, яны прызначаны для таго, каб весці работу з насельніцтвам, адлюстроўваць і адстойваць ягоныя інтарэсы.

Прынцыпы арганізацыі Руху адрозніваюцца ад некаторых прынцыпаў, па якіх пабудаваны іншыя грамадска-палітычныя арганізацыі. Заснавальнікі РТС зыходзілі з таго, каб у Рух трапілі адданыя і шчыра зацікаўленыя людзі. Адным з прынцыпаў дзейнасці РТС з'яўляецца ўлік думкі меншасці. Менавіта таму ў нас не прадугледжана калектыўнае сяброўства. Мы не гонімся за колькасцю: за калектыўнай думкай губляецца твар кожнага ўдзельніка. У статутах іншых арганізацый няма перашкод для пранікнення ў іхнія шэрагі двурушнікаў. У нас жа прама сказана, што "сяброўства" ў Руху не сумяшчальнае з парушэннем Сусветнай Дэкларацыі аб правах чалавека, карыстаннем прывілеямі і злачыннай дзейнасцю".

Тэрытарыяльнае самакіраванне неаддзельнае ад самакіравання на прадпрыемствах (маюцца на ўвазе дзяржаўныя і калгасна-кааператыўныя прадпрыемствы). І галоўная ўмова вызвалення працоўнага чалавека ад эканамічнага рабства — гэта такое вытворчае самакіраванне, калі працоўны калектыў распараджаецца прадуктам сваёй працы, а ўласнік прадпрыемства ў асобе дзяржаўных органаў ці мясцовых органаў самакіравання атрымлівае прадугледжаны працоўным пагадненнем ці іншым законам працэнт ад прыбытку.

Рух не ставіць сваёй мэтай прыход да ўлады. Ён на выбарах падтрымлівае прадстаўнікоў розных палітычных плыняў, якія на справе падзяляюць ягоныя праграму і статут.

Мікола БУСНЮК,
старшыня
Цэнтральнай Рады
Руху
за тэрытарыяльнае
самакіраванне.

# РАДЫКАЛЬНАЯ — ПАРТЫЯ БУДУЧАГА?

*У жніўні ў Мінску адбылася першая канферэнцыя радыкалаў Беларусі, у якой таксама прымалі ўдзел і госці — радыкалы з СНД і Італіі. На канферэнцыі разглядаліся, у прыватнасці, праблемы экалогіі, альтэрнатыўнай службы ў войску, правоў чалавека, а таксама абмяркоўвалася пытанне арганізацыйнага афармлення руху беларускіх радыкалаў. Матэрыял пра гэта чытайце ў наступным нумары "ЧЗ".*

Падпіска-93. Наш індэкс 63129.

## Паштовая скрынка

### Добры дзень, "Чырвонка"!

Сёння нядзелька. Выхадны дзень. Ёсць час "пашамацець" старымі паперамі. Зазірнула ў свой агульны сшытак. Нечакана ўбачыла першую інфармацыю, якую дасылала яшчэ ў 1972 годзе. Яна ад даўніны пажоўкла, страціла выгляд. Але ж такі любы напамінак! Божа! Як хутка ляціць час! Была ж тады маладзенькая, а зараз... выглядаю таксама няблага! Кіснуць не трэба! Была калісьці піянеркай, камсамолкай... Добра, што вось менавіта на гэтай кропцы і абарвалася мая "палітычная" кар'ера. Праўда, ужо выбілася "ў людзі". Прыкмецілі ды запрасілі мяне працаваць у раёнку. Так што недарэмна рыпела пяром табе, шаноўная "Чырвоная змена", у 1972 годзе. Але годзе пра сябе.

З сумам прачытала твой зварот да ўрада Беларусі. Не вельмі даўно "Чырвонка" выходзіла пяць разоў на тыдні. Была папулярнай маладзёжнай газетай. А зараз няма рэсурсаў і на адзін выхад... Прыкмеціла, што зніклі знаёмыя прозвішчы са старонак. Рэдка піша Галіна Пшонік. Сімпатыю выклікаюць матэрыялы Наталлі Стралковай. Хачу падзякаваць Вітаўту Мартыненку за шэраг матэрыялаў пра Вальжыну Цярэшчанку. Менавіта праз "Нотны аркуш" даведалася, што бардаўская спявачка жыве ў Гомелі. Лёс нас звёў. У пачатку 1992 года мы пазнаёміліся. Высветлілася, што мы родам з аднаго раёна (Добрушскага). Ды і ў горадзе — суседзі...

Дарэчы, куды знікла паштовая скрынка? У ёй заўсёды друкаваліся цікавыя матэрыялы. Друкуйце, калі ласка, больш лістоў ад чытачоў. Жадаю і зычу "Чырвонцы" быць заўсёды цікавай, прыцягальнай і злабадзёнай.

З павагай
Ганна АТРОШЧАНКА.

г.Гомель

# ПАМІЖ УЗМАХАМІ КРЫЛА І РЫДЛЁЎКІ



*Нас цяжка здзівіць сёння, уразіць творам мастацтва. "Спадары! Людзі стаміліся плакаць. Яны жадаюць хаця б крыху цяпла, радасці", — літаральна крычаў нядаўна адзін вядомы рэжысёр, звяртаючыся да братоў па рамяству. Усё так. Мы ўсе вельмі стаміліся. Можа таму ўсе з такой увагай сочаць за прыгодамі беднай багатай Марыяны.*

*Але па-ранейшаму людзі, нават у самыя цяжкія часы, не стамляюцца звяртацца да твораў, якія не толькі суцяшаюць, але і прымушаюць нас "спыніцца, азірнуцца..."*

*Святлана Алексіевіч уварвалася ў нашу літаратуру з кнігай "У вайны не жаночы твар". Кожная яе новая праца — кнігі "Апошнія сведкі", "Цынкавыя хлопчыкі" — так жа, як і многія фільмы паводле яе сцэнарыяў, станавілася падзеяй у культурным жыцці рэспублікі. Яе новая кніга "Зачараваныя смерцю" не належыць да суцяшальнага мастацтва. Пра гэта, пра жыццё, пра кнігі і пра сябе — Святлана Алексіевіч.*

***"Першы голас. Тое, што ты называеш нашай гісторыяй, прадмет даследавання для псіхіятрыі.***

***Другі голас. Нам заўсёды не хапае мінулага...***

***Першы голас. З якога бруду, з якога кашмару... На якой крыві ўсё замешана... Ты зараз разумееш?***

***Другі голас. Але гэта ўсё наша. Гэта той няшчасны кавалачак зямлі, які я люблю.***

***Першы голас. Няўжо можна любіць гэтую лужу крыві? Гэтыя магілкі?***

***Другі голас (пасля доўгага маўчання). Люблю..."***

***Гэта ўрывак з новай кнігі Святланы Алексіевіч "Зачараваныя смерцю". Дарэчы, зусім нядаўна "ЧЗ" знаёміла сваіх чытачоў з урыўкамі з гэтай кнігі ("ЧЗ" №№ 16-20 за 1992 г.).***

**– Як ты перажываеш зараз гэты пераходны перыяд, назад ад сацыялізму? Ці наперад?**

— Унутры сябе я адчуваю мала змен. Мне заўсёды ўдавалася быць самой сабой. У 80-х не было ілюзій з нагоды нашага жыцця, але, усё-такі, і я была пад уплывам гэтай ідэі.

**– Сацыялістычнай?**

— Так, сацыялістычнай. Ідэя ж была прывабная. Усе людзі — браты, усе людзі — роўныя. Зараз гэта цяжка растлумачыць, але тады гэта многім падабалася. Вельмі проста было б уявіць, што ўсе нашы "заснавальнікі" былі проста хворыя. Яны, канешне, былі страшныя людзі, і страшна чытаць зараз новыя матэрыялы пра Леніна, але, паўтараю, у самой гэтай ідэі нешта падкупала. Зараз мне б хацелася дабрацца да крыніц. Што гэта такое? Мы і зараз не ведаем. Хто з нас чытаў у арыгінале Струве? Мы чыталі толькі Леніна пра Струве. Мне здаецца, што тое, што пабудавалі ў нас у краіне, і сама сацыялістычная ідэя — гэта ўсё-такі розныя рэчы. Я не магу ўявіць сабе, каб маса разумных людзей, Блок, напрыклад, Маякоўскі, — паддаліся хвілінным эмоцыям. У Расіі было пачуццё віны ў інтэлігенцыі перад народам. Але пакуль усе яны вініліся ў сваім маёнтку ў Шахматаве, прыйшоў мужык з віламі і падпаліў гэты маёнтак. А потым перамалолі саму інтэлігенцыю.

**– Усё, пра што мы зараз размаўлялі, мае адносіны да тваёй новай кнігі?**

— Так-так. У кнізе "Зачараваныя смерцю" ёсць падзагаловак: "Расказы рускіх самазабойцаў". Гэта будзе кніга чалавечых сведчанняў на рэштках таго, што яшчэ нядаўна было сацыялістычнай імперыяй, называлася "сацыялістычным выбарам".

Разбурэнне імперыі прывядзе да знікнення "савецкага чалавека" як асаблівага тыпа чалавечай генерацыі. Хто ён? Я хачу разглядзець яго, разабрацца. Вельмі шкада, што ў свой час не была напісана кніга пра чалавека фашысцкага рэйху, пра тое, якім ён быў, гэты "звычайны фашызм".

**– І ўсё-такі (я працытую цябе саму) чаму тады расказы самазабойцаў? А не расказы звычайных савецкіх людзей са звычайнай савецкай біяграфіяй? Наогул ты ж чалавек павольны, ураўнаважаны, мяккі нават, але ў сваёй творчасці бярэш нейкія верхнія, болевыя кропкі?**

— Я, сапраўды, заўсёды выбіраю нейкую болевую кропку. У савецкай літаратуры не было, на жаль, асэнсавання трагічнасці чалавечага існавання. Я спадзяюся, што больш нас не будуць мучыць пошукамі станоўчага героя (як у рэлігіі павінны былі быць святыя, так і ў сацыялістычным мастацтве таксама патрабаваліся свае святыя). Той жанр, у якім я працую, патрабуе, каб супадалі мае патрэбы і нейкія болевыя кропкі. Тыя, хто лічыць, што мне адгадваць вельмі проста, памыляюцца. Пасля выхаду першых кніжак пачалі прыходзіць і такія лісты: "Якой маркі ў вас магнітафон? Як доўга трэба запісвацца?" Можна прасядзець з чалавекам цэлы месяц і толькі потым, пазней ён пачне раскручвацца... Калі мы працавалі з рэжысёрам Марынай Галдоўскай над карцінай "З бездані", я ёй гаварыла: "Вось гэта жыццё. Мы яго будзем слухаць, а потым асэнсоўваць".

**– У часопісе "Искусство кино" Марына Галдоўская, расказваючы пра працу над гэтым фільмам, узгадвае, што напачатку здымак яна вельмі пакутавала з-за адсутнасці канцэпцыі. І толькі потым, калі пачаліся здымкі, пайшоў матэрыял, стала зразумелым, што няма сэнсу шукаць канцэпцыю. Цытую даслоўна: "...практычна кожны чалавек ва ўзросце за пяцьдзесят у нашай краіне мае што сказаць пра вайну: трэба толькі адабраць тых, хто найбольш выразны пластычна... хто валодае якасцю неардынарнай асобы... неабходна тая ступень даверлівасці, разумення, зацікаўленасці ў выніку нашай агульнай з ім справы, якая і нараджае на экране адчуванне праўды..."**

— Усё правільна. Але гэта зусім не значыць, што можна прыйсці і слухаць гэтае жыццё з расплюшчанымі вачыма, без нейкай ідэі, філасофіі. Вяртаюся да кнігі "Зачараваныя смерцю"... Мяне цікавіць, хто ставіць гэты знак роўнасці паміж ідэяй і жыццём чалавека? Бярдзяеў пісаў, што самазабойства існавала ва ўсе часы, але часам яно станавілася з'явай сацыяльнай. Па статыстыцы апошніх гадоў, у 1987 годзе было зроблена 54 тысячы самазабойстваў, у 1988 годзе — 56 тысяч, у 1989 — 60 тысяч. У два разы больш, чым загінуўшых у аўтакатастрофах і ад крымінальных забойстваў. Гэта ж таксама твар сацыялізму. Канешне, той час нельга судзіць па законах логікі, нейкай навукі. Я не згодна з многімі ідэямі Шафарэвіча, але ён вельмі дакладна адзначыў такую асаблівасць сацыялізму, як яго "смертолюбие". "Смертолюбие социализма". Наша ідэялогія была, па сутнасці, танаталогіяй. Танатас — смерць. Нас вучылі не таму, што вось табе падаравана жыццё. Радуйся! Прайдзі свой шлях дастойна. Нас вучылі толькі, як паміраць. За ідэю.

**– Сацыялістычную.**

— Сацыялістычная, камуністычная, капіталістычная... Ідэі... Для мяне першай і галоўнай ідэяй у жыцці было тое, што лёс чалавечы, чалавек важнейшы за любую ідэю... У кагосьці з літаратурных герояў ёсць такая фраза, што "ўсё жыццё чалавечае памяшчаецца паміж узмахам крыла і ўзмахам рыдлёўкі..." Так усё проста. Але вось на працягу працы над усімі кнігамі я пастаянна сутыкаюся з нежаданнем расставацца з міфамі. З міфамі пра Вялікую Айчынную, цяпер — з міфамі аб веры ў светлую будучыню.

**– Твая кніга "Цынкавыя хлопчыкі" адна з першых развеяла міф пра "справядлівую афганскую вайну". У часопісе "Политический собеседник" В.Юдзін пісаў аб гэтай кнізе: "Я не прымаю надуманыя, шчырыя паклёпніцкія эпісталы "цынкавых фантазёраў" з іх вычварнасцю слова, фальшывасцю пачуццяў і злобнай нянавісцю да маці-Радзімы". Дарэчы, ты з ім асабіста знаёмая?**

— Не, але нядрэнна было б.

**– Так, дык вось і ў газеце "Советский патриот" быў апублікаваны артыкул твайго "любімага крытыка" пад красамоўнай назвай "Не чапай! Гэта наша!" У Доме літаратара сарвалі прэзентацыю дакументальнага фільма "Я з паслушэнства выйшаў" паводле твайго сцэнарыя на тую ж афганскую тэму. І, што горка, абструкцыя была і з боку маці загінуўшых афганцаў.**

— Так, скандал быў вялізны, але я не магу асуджаць гэтых людзей, крыўдаваць на іх. Яны — увесь час жывуць над магілай, і я не магу нават заплакаць, растлумачыць ім сваё жыццё. Магу толькі абараніцца і паводзіць сябе, як прафесіянал. Думаю, што такія сітуацыі, як і чуткі пра тое, што я была на службе ў ЦРУ, былі справакаваныя нейкімі коламі. Але ж вельмі цікава было даведацца, што славутая савецкая армія была абадраная, абарваная, і хлапчукі гінулі тысячамі. Нам неяк здолелі ўнушыць незвычайную любоў да саміх сябе. Мы да іншых падыходзілі вельмі строга, але не да сябе. Дзіўная, наогул, у нас краіна. Спачатку з народа, з ягонай гісторыі робяць вялізную лужу крыві, і ты ўвесь час нібыта стаіш над магілай, пры гэтым павінен прыносіць пастаянныя клятвы, што таксама гэтак жа зможаш. А калі задаеш якое-небудзь пытанне, табе гавораць адразу, што ты клятвапарушальнік, што ты бессардэчны, што ў цябе няма душы, ты служыш ЦРУ, якое адкрыла табе валютны рахунак.

**– Скажы шчыра, ты з самага пачатку, ну, хаця б у разгары гэтай вайны, ужо разумела яе ненармальнасць?**

— У мяне было некалькі па-іншаму. Я ж да гэтага зрабіла 2 кнігі пра вайну. Вырашыла больш да гэтага не вяртацца, таму што была небяспека, што будзеш "спатыкацца" сама на сябе. Але вось выпадкова пачула аповеды пра афганскую вайну відавочцаў і прачытала артыкулы Праханава, у якіх ён зайздросціў (!) гэтым хлапчукам, што ваявалі на чужой зямлі. Гэта было жудасна. Я прыехала ў вёску да родных, у маёй маці загінуў яе вучань. Прыехала ў Мінск — трапіла на пахаванне. На могілках хавалі ваеннаслужачага, які загінуў у Афганістане. Мяне ўзрушыла, што адзінай нармальнай рэакцыяй была рэакцыя дзіцяці, якое лямантавала: "Тата, татачка, навошта ты гэта зрабіў? Як мы без цябе будзем?" Ваенныя выступалі, гаварылі нейкія правільныя словы, і ніхто, акрамя дзяўчынкі, не спытаў, не закрычаў: "Навошта? За што?" Я зразумела, што трэба рабіць кнігу не столькі пра саму вайну ў Афганістане, колькі пра тое, што ж гэта такое, калі маці стаіць ля труны і радуецца таму, што на пахаванні сына выступае генерал, а загінуўшага ўзнагародзілі "Чырвонай зоркай". Трэба было напісаць, што такое кошт чалавечага жыцця... Калі я паехала ў Афганістан, мяне ўразіла ўсё гэта...

**– Але ж ездзілі і іншыя літаратары, журналісты. І не толькі ў Праханава выходзілі вялікія артыкулы пра бравых афганскіх хлопцаў... Жах, віна не адчуваліся нават між радкоў.**

— Я думала пра гэта. Магчыма, справа ў мужчынскай псіхалогіі? З намі ў групе быў адзін журналіст, не буду называць прозвішча. Ён увесь час імкнуўся адчуць поўную гаму пачуццяў. Вельмі рваўся на Саланг. Я ў яго пытаюся: "Ну чаго ты рвешся на Саланг?" І пачула ў адказ: "Прыеду, скажу, што на Салангу быў". Які тут сорам, калі чалавеку захацелася нервы паказытаць. У афганскім шпіталі я страціла прытомнасць. Ляжалі дзеці, старыя, жанчыны без рук, без ног. Самі калечылі, а потым крывадушна лячылі іх у сваіх шпіталях. Падарункі дзецям давалі — плюшавы мішка нейкі, і таксама без лап, без пашчы. Пакуль гэтыя падарункі даходзілі да шпіталя, па дарозе ўжо раскрадаліся. Было бачна, што ўсё купляецца і прадаецца. Хлопцы на заставах елі гнілую капусту, тушонку дрэнную. А потым мне расказалі, як хаваюць загінуўшых: на ўсё адведзены ліміты, устаноўлены каноны. І нікому не было сорамна...

**– У дакументальным фільме рэжысёра С.Лук'янчыкава "Сорам" паводле твайго сцэнарыя ёсць кінакадры налёту савецкай авіяцыі на афганцаў, якія праводзілі нейкае даволі мірнае мерапрыемства. Мы ўбачылі гэтую вайну, звярыныя, скажоныя твары паміраючых – па моцы эмацыянальнага ўздзеяння гэта мацней, чым знакамітая сцэна верталётнай атакі ў фільме амерыканскага рэжысёра Копалы "Апакаліпсіс".**

— Фільмы "Сорам" і "Я з паслушэнства выйшаў" — гэта нямногія працы, якія разглядалі афганскую вайну з таго боку, які раней замоўчваўся. Трагедыя савецкіх ваеннапалонных, "невяртанцаў", трагедыя афганскага народа. У фільме "Я з паслушэнства выйшаў" ёсць маёр, які ўвесь час гаворыць вельмі "правільныя" словы і ставіцца з глыбокай пагардай да палонных. Ён бы іх расстраляў не марудзячы, каб была яго воля. Калі я яму сказала: "Няўжо вам не шкада, было ж столькі крыві?" Ён мне адказаў: "Я б і вас расстраляў!" Уяўляеш?

Нашаму чалавеку заўсёды было ўласціва пераходзіць як бы на другі бок, спрабаваць зразумець... Але вось чыста класавы падыход зусім знішчыў адчуванне віны. Ёсць такі рускі філосаф Барыс Парамонаў, зараз жыве на Захадзе. Ён тады сказаў, што нас усіх чакае самае вялікае выпрабаванне — выпрабаванне адзінотай. Раней была адзіная сістэма, адзіная ідэя, якая ўсіх аб'ядноўвала. Як у турме, усё да дробязей было прадумана, адладжана без удзелу асобы. Турма рухнула. А на свабодзе трэба думаць і адказваць за ўсё самому. Калі пагутарыць са старэйшым пакаленнем, вы ўбачыце, што ў лепшым выпадку яны могуць прызнаць сябе ахвярамі, а тое, што каты і ахвяры аб'ядналіся ў адных і тых жа людзях, — на гэта спрабуюць забыцца. Няма пачуцця віны, пачуцця адказнасці.

**– У адным з апошніх інтэрв'ю ты гаворыш, што ў нас псіхалогія людзей, якія "выраслі ў зямлянцы". І ўсё-такі ад чагосьці і нельга, напэўна, адмаўляцца?**

— Натуральна. Напэўна, ад жабрацтва нашага, страху, мы былі больш шчыльнымі адзін да аднаго, больш сардэчнымі... Я ў прынцыпе вельмі люблю нашых людзей. І тады, калі я стаю з імі ў гэтых жудасных чэргах. Шмат бедных, дрэнна апранутых, амаль з вар'яцкай рэакцыяй. Але яны мне вельмі сімпатычныя. З іх пакутай, здольнасцю столькі перажыць і вытрымаць. Нашы людзі вельмі добрыя. Я не ганьбую эміграцыю. Чалавек можа жыць, дзе хоча. Але сёння ў такі складаны час пакідаць гэты вось кавалачак зямлі... — для мяне гэтага шляху няма.

*"Чалавека шмат і мала адначасова, асабліва таго чалавека, якому здрадзілі, якога зашыфравалі, злавілі, спавілі ў слове. У фарбах, гуках, у малітвах. Размова ідзе пра тое, што пра чалавека вядома мастацтву. Тайна сія великая есть".*

*І гэта таксама з кнігі Святланы Алексіевіч "Зачараваныя смерцю".*

Гутарку вяла Галіна ШУР.

# “МАПУЛЕЧКА”

*З парога чутно было, як шыпеў на патэльні алей. Духмяны пах бульбяных аладак міжволі цягнуў зазірнуць на кухню, і, шчыра кажучы, не ўстрымалася, каб не паспытаць блінцоў у такой сяброўскай кампаніі. Гаспадар, дзелавіта падвязаны квяцістым фартухом, з задаволеным выглядам напаўняў талеркі, а хлопцы ўмомант уплятаалі за абедзве шчакі яго хрумкастыя вырабы.*

*Пакуль пілі духмяную гарбату, паспелі пахваліцца: бацька набыў “Памочніцу”. Ох, і патрэбная, аказалася, рэч у кухоннай гаспадарцы! За лічаныя хвіліны — толькі ўключы ў разетку — машына нарэжа дробненькімі кавалкамі агародніну для супу, ператрэ бульбу, змеле зерне кавы ці выцісне з яблыкаў сок. Хлопцы між сабой нават чаргу ўстанавілі, хто ў які дзень дапамагае гатаваць ежу і, зразумела, назірае за стараннем “Памочніцы”.*



За некалькі месяцаў, што я не бачылася з Аляксандрам і яго дзецьмі, у сям'і адбыліся значныя перамены. Пасля няўтульнага, застаўленага на вялікую палову ложкамі і шафай сырога пакойчыка, дзе жылі раней Каліцені, неяк незвычна адчувала я сябе ў вялізнай пяціпакаёвай кватэры. Як сапраўдныя экскурсаводы, малыя вадзілі па пакоях, з балкона паказалі, у якім баку школа, крамы, дзе дзіцячая пляцоўка. Наваселле справілі першага верасня, якраз да пачатку навучальнага года. Новая школа стала месцам "працы" адразу для двух братоў. Старэйшаму — Сяргею мінула восем гадоў, ён — другакласнік. Дзімку праз паўтара месяца споўніцца сем, але ён ужо вучань, чым надта ганарыцца. Пяцігадовы Паўлік, роўны з ім па росту, прымервае без дазволу перад люстэркам школьную форму — таксама марыць хутчэй сесці за парту. Аляксандр разумее, колькі праблем адразу зваліцца дадаткова на ягоныя плечы: палачкі ў сшытках, нібыта вусені, пачнуць упарта запаўзаць за лінейкі і прыйдзецца неаднойчы разам з сынам перапісваць дамашнія заданні, паўтараць надакучлівыя галосныя і зычныя, пакуль гукі не злучацца ў склады і можна будзе разабраць першыя прачытаныя хлопчыкам словы. Але Паўлік перапоўнены самых радужных мараў наконт вучобы. Хто, калі не ён, стане выдатнікам, парадуе бацьку?

Гарэзе-Арцёмку няма яшчэ двух гадкоў, узрост такі — не пакінеш без дагляду. Сваю “дапамогу” малы навязвае літаральна кожнаму, вельмі крыўдзіцца, калі яго раней за іншых увечары ўкладваюць адпачываць. Дзякуй Богу, ёсць паслухмяная нянька — даўгавухі Сцёпка. Сабака моўчкі ўкладваецца калачыкам побач з малым, паклаўшы на лапы вузкую мордачку: “Бачыш, і я сплю”. Малодшы ў сям'і — васьмімесячны Саша, Сашачка, Сан-Саныч. Сімпатычны хлопчык, вясёлы, кампанейскі. Адзіная бяда — рэжуцца зубкі, і Саша гатовы ўсё навокал зацягнуць у рот. Нараджэнне сына і абярнулася для сям'і бядой...

Не ведаю, як іншых, а мяне заўсёды мучыла пытанне: чаму шчырыя, прыгожыя душой людзі рана адыходзяць з жыцця, а бязлітасных злачынцаў, нелюдзяў, згубіўшых чалавечае сумленне і гонар, смерць абыходзіць бокам? Што гэта: выпрабаванне жыццём? Чым, напрыклад, могуць быць апраўданыя пакуты, што выпалі на долю таго ж трыццацітрохгадовага Аляксандра Каліцені? Уяўляю, як пасля напружанага, запоўненага дзіцячым гоманам працоўнага дня балюча заставацца ў адзіноце бясконцай ночы, быць штодзённа адзін на адзін са шчымлівай трывогай за сыноў, іх будучае. З таго часу, як перастала біцца Таццяніна сэрца, Сашава баліць, стогне параненай птушкай.

У старой кватэры Каліценяў я не ўбачыла ніводнага фотаздымка ў жалобнай рамцы. Каб не трывожыць дзяцей, Аляксандр схаваў сямейны альбом, пераехалі — дастаў, пагарталі з сынамі старонкі жыцця. На мностве здымкаў — Таццяна з дзецьмі. Аляксандр любіў здымаць іх, рабіў гэта прафесійна.

Адкрыты прыгожы твар зусім маладой жыццярадаснай жанчыны, таямнічыя вочы, лёгкая ўсмешка на вуснах, цёмныя валасы да плеч... Такая яна — маці Сярожы, Дзімкі, Паўліка, Арцёмкі, такой застанецца ў памяці малодшага сына — самага даўгачаканага і любага, з якім і пабыла некалькі апошніх тыдняў свайго жыцця, — настоіла, каб наракл і ў гонар бацькі. Паміраючы, хвалявалася пра малых, не пачуў ад яе Аляксандр ні папроку, ні крыўды. Дактары разводзілі рукамі, маўляў, неардынарны выпадак у медыцынскай практыцы, нічога нельга зрабіць. А, можа, не паспрабавалі зрабіць?..

Многім, хто глядзеў праграму тэлемарафона “Выратуем дзяцей”, запомніўся сюжэт пра сям'ю Каліценяў. Нераўнадушныя да чужога гора людзі адгукнуліся, тэлефанавалі ў Дзіцячы фонд, прапаноўвалі дапамогу. У братоў з'явілася прыгожая вопратка, ласункі да святаў, дзіцячае харчаванне і цацкі, папоўнілася кнігамі хатняя бібліятэка. Беларускі дзіцячы фонд выдзеліў, акрамя дапамогі, 20 тысяч рублёў на набыццё па астаткаваму кошту мікрааўтобуса. Нехапаючую колькасць грошай Аляксандр збіраецца зарабіць сам, разумеючы, што Фонд дапамагае не толькі яго дзецям.

З раніцы ён звычайна плануе, чым будзе займацца кожную гадзіну. А паспець трэба шмат: згатаваць, памыць бялізну, адпрасаваць кашулі, збегаць у крамы, адстаяць вялізныя чэргі за прадуктамі, пракантраляваць вучобу старэйшых, пачытаць казкі і, між іншым, не забыцца пра сямейны бюджэт. На грошы дэкрэтныя, штомесячную дзяржаўную падтрымку, як ні круціся, не працягнеш.

Па-рознаму паводзяць сябе ў складаных сітуацыях мужчыны. Адным патрэбна разуменне, слушная парада, другім — матэрыяльная падтрымка ды бясконцае спачуванне. Даводзілася бачыць мужчынскія слёзы адчаю, страху, назіраць іх абыякавасць да жыцця. Аляксандр Каліценя з тых, хто балюча пераносіць страту, але выстаіць пры любых акалічнасцях. Жыццёвыя прынцыпы: разлічвай у першую чаргу на свае сілы, дапаможаш ты — дапамогуць табе. І сыноў вучыць не цурацца любой работы. Я была прыемна здзіўлена, даведаўшыся, што мыццё падлогі ў вялікай кватэры — абавязак старэйшых хлопчыкаў. У правілах — пакінуць чыстым пасля абеду посуд, заправіць ложкі. Паглядзелі б вы, якая ідэальная чысціня ў доме занятых справай дружных мужчын! На самым бачным месцы ў зале — фотаздымак мамы...

Пакідаючы кватэру Каліценяў, незнарок сустрэла ў ліфце іх суседзяў. Запыталася, што яны ведаюць пра сям'ю. Жанчына абыякава паціснула плячыма: “Засяліліся — і няхай жывуць, сваіх бед хапае”.

Старонку падрыхтавала
Людміла ГРАМОВІЧ,
рэферэнт Беларускага
дзіцячага фонда.

Фота С. БРУШКО.

## Цуда-юда, рыба-кіт...

Атрымана гуманітарная дапамога ад Фонда дэмакратыі і развіцця з Вашынгтона. Груз складалі медыкаменты, вітаміны, лекі, аднаразовыя сістэмы для пералівання крыві, шпітальнае абсталяванне, стэрыльны хірургічны матэрыял. Размеркавана ўсё па медыцынскіх установах раёнаў Мінскай, Брэсцкай, Магілёўскай, Віцебскай абласцей, у рэспубліканскі дыспансер “Антычарнобыль” НДІ радыяцыйнай медыцыны, у мінскія 3 і 4 дзіцячыя бальніцы, 6 і 9 клінікі.

Але на адрас Беларускага дзіцячага фонда прыходзяць і не зусім звычайныя пасылкі. Нядаўна маленькае “прывітанне” з Аўстраліі заважыла 260 кілаграмаў. Сёлета група беларускіх школьнікаў адпачывала ў сем'ях аўстралійскіх аднагодкаў. Былі сярод дзяцей і юныя мінчане. Мяркуючы па ўсім, рабяты моцна пасябравалі.

У падарунак аўстралійскія скаўты даслалі фарбы, цацкі, сувеніры, адзенне, цукеркі і фотаздымкі з пісьмамі. Амаль на кожным канверце аказаліся кенгуру і мядзведзь-каала. Відаць, гэтыя нацыянальныя жывёлы надта спадабаліся беларускім дзецям і нагадваюць ім сонечную Аўстралію.

З-за акіяна, як прывітанне ад канадскіх дзяцей, прыбыў вялізны кіт з начынкай. Тры метры ў даўжыню і каля паўтара метра ў вышыню, з плаўнікамі і вусамі. Цуда-рыба была зроблена з дрэва і спецыяльнага кардону ў Канадзе. Хвастатага гіганта дапамаглі даставіць кіраўнікі замежных дабрачынных арганізацый “Глабальная дапамога”, “Глабальны рух і развіццё” Норман Янг і Шэрлі Макдональд. Перададзены падарунак выхаванцам дзіцячага садка № 216 Мінскага вытворчага аб'яднання вылічальнай тэхнікі. Садковыя пакоі папоўніліся дзесяткамі гульняў, маляўнічымі наборамі для аплікацый, лепкі, малявання, вясёлымі героямі заакіянскіх мульцікаў, цацкамі з футра.



*Паданні*

# ЗАКЛЯТАЯ МАГІЛА ВОЛАТА

У ваколіцах Полацка, расказвалі, у даўнія часы бесперапынна ішлі войны. І засталося паданне, што частка нейкага разбітага войска, баючыся, каб яго нарабаванае багацце не трапіла ў рукі непрыяцеля, золата і серабро, якое мела пры сабе, закапала ў зямлю на ўзгорку, а наверх паклала дзікі камень. Ён павінен быў паказваць тое месца, калі б хто-кольвек з іх вярнуўся, каб адшукаць схаваныя скарбы. Але прайшлі сотні год, а камень ляжаў на тым жа месцы, а пад ім некранутыя скарбы.

Слухаючы такія размовы, некалькі полацкіх хлопцаў дамовіліся пайсці ноччу на той узгорак, здабыць скарбы і падзяліць між сабой пароўну. Тады, калі ўсе спалі, узяўшы патрэбнае прыладдзе, выйшлі за горад.

Ноч была пагодная, неба ўсеяна зоркамі, а поўны месяц свяціў з вышыні. Ішлі ціха і асцярожна, каб іх ніхто не спаткаў на дарозе. Мінулі касцёл святога Ксаверыя, дзе спачываюць прахі манахаў і тутэйшых людзей, чулі, як адгукаліся галасы вартаўнікоў у Спасе, звярнулі з дарогі і пайшлі ўсцяж ракі аж да патрэбнага месца.

Узышлі на ўзгорак, знайшлі той дзікі камень. Палова яго была ў зямлі, а верхняя частка была пакрыта сухім мохам. Абкапалі яго кругом, супольнымі сіламі вынялі з таго месца і глыбока ў зямлю ўваткнулі жалезную рапіру. І тады вострым канцом яна ўпёрлася нібы ў нейкую бляху. "Тут, напэўна, скарб!" – і пачалі раскопваць зямлю.

Працавалі доўга, часта правбавалі рапірай, – скарб ляжаў неглыбока, але колькі ні капалі, зямля ізноў асыпалася з усіх бакоў і напаўняла яму. Нейкі час стаялі ў здзіўленні, ім здалося, што скарб закляты, засыпаецца пяском і не хоча дацца ім у рукі.

Калі параіліся між сабой, што рабіць далей, на ўсходзе з'явілася чорная хмара, якая закрыла ўсё неба, і месяц схаваўся ў густых аблоках. Зрабілася так цёмна, што яны ледзь бачылі адзін аднаго, і пайшоў ціхі дождж.

– Работа лепей пойдзе, калі пясок крыху намокне, – сказаў адзін з іх. – А болей не траціма дарэмна часу.

Падбадзёрваючы сябе, дружна пачалі ізноў капаць і выкапалі цяпер такую доўгую і шырокую яму, якая ўжо лёгка не магла засыпацца.

Рыдлёўкі слізганулі па жалезе.

– Кацёл, кацёл з грашамі! – радасна закрычалі яны.

Толькі калі абкапалі кругом і хацелі падняць з зямлі, убачылі, што гэта быў важкі жалезны панцыр, пакрываў ён грудзі шкілета, у якога пры боку ляжаў меч, а на чэрапе жалезны шлем. Стаялі яны ў здзіўленні і глядзелі, як недарэчна падманула іх надзея.

Тады адзін смялейшы кажа:

– Пакінем гэты шкілет, а зброю возьмем сабе, няхай застанецца яна хоць памяткай аб нашай працы, якою праваждаліся ўсю ноч.

Толькі яны намерыліся так зрабіць, як раптам бліскавіца асвяціла ўзгорак, і бачаць: стаіць агромністы асілак у жалезным панцыры і трымае востры меч над іх галовамі.

Трывога праняла іх сэрцы, грымоты ўзрушылі зямлю, і асілак прамовіў:

– Нікчэмныя! Золату і серабру прадалі ўсе пачуцці вашы, толькі ў багацце ўклалі свае надзеі, не ўшанавалі прах волата, які з годнасцю скончыў тут жыццё...

Загрымела ў аблоках, і асілак знік з іх вачэй...

Пры святле бліскавіцы ізноў убачылі перад сабой засыпаную пяском яму, і падалося ім, што на тым месцы зямля некранута была...

*Родны край*

# КАСТРЫЧНІК



Пагаслі апошнія фарбы лета. Наўкол шэра і няўтульна. Над зямлёю плывуць нізкія хмары. Па некалькі дзён запар імжыць дробны дождж. Здаецца, усё нацягнута вільгаццю. У лесе стаіць трывалы пах прэлага лісця і грыбоў. Замірае жыццё лясных насельнікаў. Рэдка чуваць галасы птушак.

## 7. Серада.

60 гадоў з дня нараджэння (1932) І.М.Пташнікава, беларускага пісьменніка.

## 10. Субота.

415 гадоў назад (1577) гарады Магілёў, Мазыр і мястэчка Ула (цяпер гарадскі пасёлак у Віцебскай вобласці) атрымалі магдэбургскае права.

## 12. Панядзелак.

500 гадоў назад (1492) Хрыстафор Калумб адкрыў Амерыку.

## 13. Аўторак.

60 гадоў з дня нараджэння (1932) А.Р.Кобец-Філімонавай, беларускай пісьменніцы.

## 14. Серада.

ПАКРОВЫ (ПАКРОЎ БОЖАЙ МАЦІ)

Праваслаўнае свята ў гонар таго, як у 910 годзе ў Канстанцінопалі Блажэннаму Андрэю і яго вучню Епіфану з'явілася Багародзіца, якая трымала над малельнікамі ў храме белае пакрывала і прамаўляла малітву пра выратаванне свету.

У народным уяўленні паняцце "пакроў" атрымала куды больш шырокі сэнс, ахопліваючы самыя розныя прыкметы прыроды гэтага часу: "Святы Пакроў накрыў зямлю жоўтым лістом, маладым сняжком, ваду лёдам, пчалу мёдам", "...рыбу луской, дрэва карой, птаху пяром, дзеўку чапцом". Гаварылі, што на Пакроў зіма закрывае лета, а Бог пячатае зямлю пасля гэтага дня і да вясны ніхто не можа знайсці скарбаў. З гэтага свята пачыналася зімаванне скаціны ў хляве: "Пакрова — зарыкала ў хляве карова". Пра нерухавага гаспадара гаварылі: "Хто сее на Пакрове — не будзе мець чаго даць карове". Пакроў лічыўся надзейным паказчыкам прагнозаў надвор'я на будучае: "Калі да Пакрова дня снег не пакрые зямлю, то і на Каляды не будзе снегу"; "Якое надвор'е ў дзень Пакрова, такое яно і будзе ўсю зіму да вясны"; "Калі да Пакроў не было снегу, не будзе яго яшчэ дзве нядзелі"; "Калі ад Пакроў да свята Усіх святых (1 лістапада) краты зямлю точаць, то зіма будзе снежна і марозліва". Асабліва пільна сачылі на Пакроў за напрамкам ветру: з якога боку ён быў у гэты дзень, з таго боку ён павінен быў дзьмуць галоўным чынам і ў бліжэйшую зіму. Паўночны пакроўскі вецер прадказвае суровую зіму, а паўднёвы — мяккую, гнілую. Калі ж з раніцы задзьме ўсходні вецер, зіма будзе маласнежная, заходні — наадварот, вельмі снежная. Пчаляры прыкмячалі: калі дажджліва дзень на Пакровы — на наступны год пчолы збяруць багата мёду. У гэту вясельную пару хлопцы выглядалі сабе нявест, а тыя напярэдадні Пакрова варажылі на замужжа: набіралі ў хвартух апалае лісце і вытрасалі з прыполу — куды вецер панясе, туды і замуж ісці.

**Уладзімір ВАСІЛЕВІЧ.**

## 15. Чацвер.

80 гадоў назад (кастрычнік 1912 г.) у Вільні выйшаў сатырычны часопіс на беларускай мове "Крапіва".

## 16. Пятніца.

80 гадоў з дня нараджэння А.Ф.Ушакова (1912-1941), беларускага паэта.

## 19. Панядзелак.

1988 — утвораны рэспубліканскае гісторыка-асветнае таварыства памяці ахвяр сталінізму "Мартыралог Беларусі" і аргкамітэт Беларускага народнага фронта за перабудову "Адраджэнне".

## 24. Субота.

40 гадоў назад (кастрычнік 1952 г.) заснаваны Слуцкі краязнаўчы музей.

## 28. Серада.

70 гадоў з дня нараджэння (1922) М.П.Даніленкі, беларускага пісьменніка.

## 30. Пятніца.

1988 — мітынг-рэквіем "Дзяды" каля Усходніх могілак у Мінску і ў Курапатах.

31 кастрычніка — 80 гадоў з дня нараджэння Ю.С.Пшыркова (1912-1980), беларускага літаратуразнаўца і крытыка.

## 31. Субота.

ДЗЯДЫ.

Як мудра рабілі нашыя продкі, калі ўшаноўвалі традыцыяй дні, якія насілі назву Дзяды, маглі спыніцца, задумацца, хто ты, для чаго жывеш, адчуць, што ты не чужы на гэтай зямлі, бо ў цябе ёсць родныя магілы, куды можна і трэба прыйсці, у цябе ёсць дзеці, унукі, якія зробяць тое ж самае пасля тваёй смерці. Агульныя памінкі ў Беларусі, пры вялікай разнастайнасці мясцовых варыянтаў, праводзіліся ў асноўным у кожную пару года: вясной — радаўніца, "наўскі вялікдзэнь", летам — траецкія дзяды, восенню — зміітраўскія дзяды, асяніны, зімой — масляні́чныя дзяды. У заходніх раёнах Беларусі памінкі былі два разы на год: вясной і восенню — у дзень Усіх святых, задушны дзень, што было звязана з уплывам каталіцтва. Вясной і летам памінкі адбываліся на могілках. Кожная сям'я напярэдадні прыбірала магілы сваіх родных і блізкіх, высаджвала кветкі.

Восеньскія і зімовыя дзяды кожная сям'я адзначала ў сваёй хаце. Да іх рыхтаваліся як да вялікага свята: прыбіралі хату, двор, гаспадарчыя пабудовы, гаспадыня гатавала разнастайныя стравы, у тым ліку і найбольш любімыя нябожчыкамі. Уся сям'я к вечару збіралася разам, усе апраналі святочнае адзенне, за сталом панавала ўрачыстая абстаноўка. Гаспадар ці гаспадыня, памаліўшыся, запрашалі нябожчыкаў за стол, прычым, не толькі сваіх блізкіх, але і тых, каму няма куды падацца ў гэты дзень: "Святыя дзяды! Завём вас, хадзіце да нас. Ёсць тут усё, што бог даў, чым толькі хата багата. Просім вас — ляціце да нас!" Гаспадар запальваў свечку. Вячэра пачыналася са спецыяльнай абрадавай стравы — кануна, куцці. Частку страў у асобным посудзе ці непасрэдна на стале пакідалі для дзядоў. На ноч стол не прыбіралі, а толькі накрывалі чыстым абрусам, на Палессі частку памінальных страў выкідвалі ў азёры ці рэкі. Дзеці і падлеткі, якія прысутнічалі на памінках, засвойвалі традыцыйныя звычаі і абрады свайго народа, адчувалі прыналежнасць да пэўнага роду, сям'і, грамады.

**Таццяна КУХАРОНАК.**

# 4 кастрычніка — Дзень настаўніка

## Школьны карагод

Вера Міхно

### МАТЭМАТЫКА

Кожны ведае ў свеце:
І дарослыя, і дзеці,
Колькі будзе двойчы два...
Матэматыка сухая,
Ды і сумная ж якая! —
Часта скардзіцца дзятва.
Толькі ж, братцы, без падліку
Не скарыць вяршыні-піку,
Новы дом не збудаваць,
Ні ў касмічнае прасторы,
Ані ў акіяне-моры
Аніколі не бываць.
Ганарыцца свет па праву
Матэматыкам Ландау,
Кавалеўскай і Ла Пласам.
І рашылі мы ўсім класам
Матэматыку пачаць
На пяцёркі вывучаць.

### ХІМІЯ

Як пабудаваны атам,
Што такое шкло і вата,
Хто стварыў пясок, ваду,
Гліну, дрэва і руду,
Як пабудаваны я —
Нам раскажа хімія.
Служыць хімія аддана,
Без яе было б пагана:
Не давалі б нам праходу,
Разраслiся, проста жах,
Пустазелле ў агародах,
Злыя шкоднікі ў садах,
Без яе ніхто ні разу
Не здабыў бы з нафты газы.
Ні бензіну для машын,
Ні ўгнаення для раслін,
Ні пластмасы, ані лекаў
Не было б у чалавека,
Калі б хімію ў школе
Не вучыў ніхто ніколі.

### ФІЗІКА

Вельмі фізіка патрэбна,
Не спрачайцеся дарэмна,
Бо без гэтага прадмета
Траекторыю ракеты
Нам ніколі не ўгадаць
І да зорак не лятаць.
Толькі фізіцы вядома,
Скуль бярэцца гнеў у грома
І чаму ў час навальніцы
Ярка ззяюць бліскавіцы,
Мы на фізіцы пачуем,
Дзе вясёлка спіць-начуе
І чаму святло гарыць
У электрычным ліхтары.
Тэлевізар, тэлефоны —.
Зноў жа фізікі законы.
Без яе, як без вады —
"Ні туды і ні сюды".

### ГІСТОРЫЯ

Нашы прадзеды, дзяды
Мужна ў бой ішлі заўжды.
Пра ваенныя дарогі,
Пра буйныя перамогі,
Пра "Пагоню" і штандары,
Пра страшэнныя пажары,
Пра нягоды ў людзей
Нам яна распавядзе.
Як наш продак старажытны
Навучыўся сеяць жыта,
Хто ўзводзіў гарады
У дапатопныя гады.
Памятаць яна павінна
Даты, лічбы і краіны,
Каб і дзеці і ўнукі
Потым скарыстаць маглі
Разнастайныя навукі
Усіх вучоных на зямлі,
Каб вярнуць героям славу
Праз стагоддзе ці праз тры...
Па гісторыі цікава
Падарожнічаць, сябры!

### БІЯЛОГІЯ

Рашыць праблемы многія
Паможа біялогія.
Ёсць у яе падзел
На розныя галіны:
Батаніка — расліны,
Другая — заалогія,
Яе прадмет — двухкрылыя
І чацвераногія,
Нарэшце — анатомія,
Навука пра людзей.
Хай Дарвін, Мендаль, Паўлаў
Зрабілі і нямала,
Ды новыя адкрыцці
Наперадзе, сябры.
Вось вырасцем і самі
Вучонымі мы станем.
Хутчэй бы біялогіі
Цудоўны свет адкрыць!

### ГЕАГРАФІЯ

А на якім уроку
Ты, не зрабіўшы кроку,
Махнуць бы мог адразу
Да горнага Каўказу,
А потым у пустыню
Ці нават у тайгу?
Я адказаць магу:
Вядома, геаграфія
Тут маецца на ўвазе,
На ёй за школьнай партай
Ты з дапамогай карты
Даведаешся столькі
Пра шэсць мацерыкоў!
І з грозным акіянам
Ты поплеч з Магеланам,
Вядома, пазнаёмішся
Ля дальніх берагоў.

### ЛІТАРАТУРА

А прадмет цікавы гэты
Пра пісьменнікаў, паэтаў,
Драматургаў, байкапісцаў
Нам, сябры, распавядзе,
Нельга без яго нідзе.
На ўрок літаратуры
Вунь, глядзі, да нас прыйшоў
З тэй ваеннае віхуры
Незабыўны Куляшоў.
Быкаў, Панчанка і Танк
Побач крочылі. Вось так!
Тут пра Коласа, Купалу
Мы дазнаемся нямала.
А ў Кандрата Крапівы
Ну й пякуча, хоць ты вый!
Урачыстым крочыць строем
Батальён яго герояў:
Коней, жаб, варон, аслоў!..
Не хапае нават слоў.
Што й казаць, напэўна, гэты
Лепш за іншыя прадметы,
Цікавей яго няма.
Павышай сваю культуру,
Вывучай літаратуру,
Часу не губляй дарма.

* * *

І нарэшце дружным хорам
Мы з удзячнасцю паўторым:
Тое, што вучылі ў школе,
Не забыць нам аніколі,
Дзякуем настаўнікам,
да навук праваднікам!

Пераклад з рускай
Віктара ЛЯШЧЫНЫ.




Ніл ГІЛЕВІЧ

## Настаўнік

*...Даўным-даўно па ўсёй краіне*
*Жывуць яго выпускнікі.*
*Іх строй сягоння незлічоны.*
*І вучняў вучні падраслі*
*І шлюць настаўніку паклоны*
*З усіх, з усіх канцоў зямлі.*
*І што з таго, што падступіла,*
*Як лёс, няўмольная, і ўкрыла*
*Крутыя скроні сівізна?*
*Яшчэ ў грудзях не згаслі сілы,*
*Яшчэ не слабнуць сэрца крылы,*
*Не адцвіла ў душы вясна!*
*Таго ніколі не пакіне*
*Юнацкі вечна песні ўздым,*
*Хто аддае, як дар краіне,*
*Жыццё да рэшты — маладым.*

**Са святам цябе, беларускае настаўніцтва! Чырваназменаўцы ў след за народным паэтам зычаць, каб не слаблі крылы вашага сэрца, на адцвітала вясна ў душы.**

## Дзеці, дзеці...

* * *

Летам да бабулі прыехаў унук. Паселі яны на снапах, гутараць, а ўнук круціцца і потым пытае: бабуля, цябе асцюкі кусаюць?

— Не.

— А чаму ж кусаюць мяне? Няўжо яны не ведаюць, што мы радня?

* * *

Малое дзяўчо збірае ягады з куста воўчага лыка ля дарогі.

— Што ты робіш, дурніца?— пытаецца прахожы.— Гэта ж воўчыя ягады.

— Нічога, дзядзечка. Для ваўка яшчэ вырастуць.

* * *

Бацька купіў першакласніку прыгожы ранец і кажа:

— Глядзі, Міколка, каб ты кожны дзень прыносіў поўны такі ранец пяцёрак.

— А куды ж я буду кніжкі класці?

* * *

Ідзе хлапец ля става, пасвіствае. Калі бачыць — нейкі незнаёмы рыбу ловіць.

— Дзядзька!— гукнуў хлапец.

— Цыц. Не лякай рыбы!

Недзе праз паўгадзіны хлапец зноў:

— Дзядзьку!

— Каму кажу, змоўкні. І так не клюе.

Мінула гадзіна, другая. Нічога і не злавіў рыбак. Ужо збіраючыся дамоў, спытаў у хлапца:

— А што ты хацеў мне сказаць?

— Ды хацеў сказаць, што ў гэтым стаўку ўжо дзесяць год рыбы няма.

* * *

— Чаго гэта ты падрапаны?— пытаецца ў Цімоха Юрась.

Цімох яму адказвае, што купаў ката.

— А я вось не падрапаны, хоць таксама купаў свайго...

— Э, дык ты ж не выкручваў яго і не сушыў!

* * *

— Ведаеш, бабуля, вучоныя даводзяць, што сонца пагасне праз 8 мільярдаў год...

— Як ты сказаў, праз колькі год?

— Праз восем мільярдаў год.

— Ах ты, блазнюк, як напужаў! Мне здалося, што праз восем мільенаў...

* * *

— Калі ты нарэшце выправіш сваю двойку па арыфметыцы?— запытаўся бацька ў сына.

— А як я магу выправіць, калі журнал знаходзіцца ў настаўніцы?

* * *

— Грыша, чаму ты не садзішся за парту?

— Не магу сесці— учора тата растлумачваў мне задачку.

* * *

— Не бойся, маленькі, дзядзька доктар нічога табе не зробіць.

— Тады навошта ж мы да яго прыйшлі?

*Настаўнікі пішуць*

## ПАЭЗІЯ ВАКОЛ НАС

У Асаўскай сярэдняй школе працуе літаратурны клуб "Паэзія вакол нас". У склад яго савета ўваходзяць вучні старэйшых класаў і настаўнікі.

Аматары паэзіі правялі вечар па творчасці Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Паўлюка Труса.

Але не адным вечарамі жыве клуб. Тут знаёмяцца з навінкамі паэзіі, вывучаюць тэорыю літаратуры, аналізуюць сучасныя творы, выпускаюць літаратурную газету "Спадчына", пішуць сачыненні на розныя тэмы.

Настаўнікі беларускай мовы і літаратуры імкнуцца тут не толькі цікава падаць матэрыял, не толькі напрацаваць патрэбныя веды, але і сфарміраваць у вучняў актыўную жыццёвую пазіцыю. Вялікае значэнне надаюць літаратуры ваенных гадоў.

Дапамагае школе ў пазакласнай рабоце бібліятэкар Аляшкевіч Міхаіл Сцяпанавіч. Ён добра ведае дзяцей, любіць іх. У бібліятэцы можна пазнаёміцца з выставамі "Пісьменнікі – дзецям" і іншымі.

У нашай школе не толькі шмат чытаюць, але і прапагандуюць літаратуру. Так, распаўсюджваюць палітычную, мастацкую і навукова-папулярную літаратуру сярод працаўнікоў калгаса. Шмат робяць для таго, каб кожны вясковы жыхар падпісаўся на газеты і часопісы.

Кніга вучыць нашых дзяцей пазнаваць радасць працы, загартоўваць характар.

Ільля ВАБІШЧЭВІЧ,
настаўнік.
Брэсцкая вобласць.



# "Горкія яблыкі"





ГУМ. Дзесяць гадзін раніцы... Падземны пераход пад вуліцай Леніна. Штурхатня, мітусня, скразнякі. На цэментнай прыступцы — жанчына, заматаная хусткай так, што нельга разгледзець яе твар. На руках у жанчыны — немаўля, закручанае ў рознакаляровыя анучы... Пры ўсім сумленным народзе жанчына расшпіляе гузікі і прыкладвае дзіця да грудзей. Божа мілы! Рафаэль жахнуўся б, убачыўшы сваю Мадонну, спушчаную з нябёсаў на зямлю. Ці не таму яна так старанна прыкрывае твар, што падсвядома адчувае ўсё дзікунства свайго знаходжання тут? Ад каменных пліт цягне холадам і вільгаццю... Вецер падкідвае і шкаматае мятыя чырвонцы і дваццаціпяцірублёўкі ў мужчынскім капелюшы.

Я не магу ёй нічога даць — не падымаецца рука. Я не хачу заахвочваць чужую тупасць, чэрствасць, бяздумнасць. І колькі не гаварыце мне пра аб'ектыўныя абставіны, якія нібыта штурхнулі яе гандляваць сваім дзіцем,— не паверу. Няма такіх абставін, з якімі нельга было б змагацца іншымі сродкамі.

Няма такіх абставін, якія прымусілі б жанчыну па паўдня трымаць немаўля ў наскрозь прадзьмутай вятрамі падземцы. Яна і месца для жабрацтва выбірае, спадзеючыся менавіта на нашу мяккасардэчнасць...

Розныя бываюць маці. Розныя... Усе няшчасці і грахі іх дзяцей — ад іх саміх. Гніласць ад гніласці. Порча ад порчы. Яблык ад яблыні далёка не падае... А калі выпадкова некуды і закоціцца — усё адно чарвяточына не дасць яму выспець і ператварыцца ў салодкі плод...

За акном — бясконцы асенні дождж. Мы сядзім у кабінеце начальніка абласнога дзіцячага прыёмніка-размеркавальніка, але я не рызыкую зняць куртку. Холадна... Грэюся ад таго, што рука ўвесь час нешта занатоўвае ў блакнот. Аляксандр Іванавіч Габа і ёсць гэты самы начальнік. Да здзіўлення, ён зусім не адпавядае майму стэрэатыпнаму ўяўленню аб кіраўніках падобных устаноў. Думала сустрэць у пакоі неаб'ятную постаць з цяжкім, пранізлівым позіркам, рэзкімі рухамі і камандзірскім голасам... На шчасце, усё не так. І постаць, і голас, і рукі сведчаць аб спагадлівасці, цярплівасці, тактоўнасці гэтага чалавека.

Што мы ведаем пра такія "прыёмнікі"? Што мы можам пра іх ведаць, калі — прабачце ўжо за штамп — доўгія гады лічылі нашых малых самымі шчаслівымі ў свеце, а слова "дзяцінства" ўжывалі не інакш як з эпітэтам "залатое"... Беспрытульныя падлеткі? Архаізм часоў грамадзянскай вайны... Галодныя, голыя, азлобленыя, хворыя на сіфіліс і ганарэю дзеці? Як вам не сорамна! Вы на каго працуеце?!

Цяпер, дзякуй Богу, каб трапіць журналісту ў прыёмнік для беспрытульных, не трэба біць паклоны Міністэрству ўнутраных спраў. Усе кропкі над "і" даўно расстаўлены; сёння уцёкі з дому і злачынствы непаўналетніх мы ўспрымаем без унутранага ўздрыгвання — звыкліся. Хаця не зусім. Ёсць рэчы, да якіх прывыкнуць немагчыма...

Не так даўно ў вёсцы аднаго з раёнаў Мінскай вобласці адбылася трагедыя. Не трагедыя, прынамсі, а нешта жудаснае, бесчалавечнае, неверагоднае, чаму і назвы няма. Чатырохгадовае дзіця стала ахвярай трох падлеткаў дванаццаці, трынаццаці і чатырнаццаці год. Яго не проста згвалтавалі і забілі. З яго здзекаваліся так, што ўявіць, вымавіць гэта нармальнаму чалавеку немагчыма... У той вёсцы ніхто не меў відэамагнітафона, ніхто ніколі не бачыў амерыканскіх баевікоў, фільмаў "жахаў" і "парнухі", на якія ў крайнім выпадку можна было б спіхнуць віну за выхаваўчы брак. Страшней за любы фільм жахаў аказалася асяроддзе, у якім жылі і назапашвалі адмоўны зарад малалетнія выродкі... Прэса адгукнулася тады некалькімі сухімі радкамі ў раздзеле крымінальнай хронікі, але і іх было дастаткова, каб выклікаць хвалю агульнай нянавісці грамадства... Можаце сабе ўявіць, што тварылася на месцы падзей... Слова "самасуд" не сыходзіла з вуснаў сяльчан, і міліцыя, вымушаная абараняць ад людской кары траіх злачынцаў, адправіла іх у сталіцу, ад граху далей... Б. і Л. часова трапілі ў абласны дзіцячы прыёмнік-размеркавальнік.

Віна абодвух не пакідала ніякіх сумненняў... А зараз уявіце сябе хоць на імгненне на месцы Аляксандра Іванавіча — сам-на сам з нахабным і цынічным забойцам, дванаццацігадовым Б., якога нават судзіць не будуць, бо няма такога закона — судзіць да 14-ці год. Уявіце, што ў часовую залежнасць ад вас трапляе чалавекападобная істота, якая да таго ж ганарыцца сваёй жорсткасцю і нават пытаецца ўсталёўваць свае парадкі... Але прыёмнік — гэта не калонія, не спецшкола, гэта ўсяго толькі "перавалачны" пункт, прамежкавая інстанцыя паміж мінулым і будучым. І, нягледзячы на краты і каменную агароджу, тут жывуць па чалавечых законах і да ўсіх выхаванцаў ставяцца аднолькава, незалежна ад таго, што нарабілі яны за межамі гэтага выпадковага прытулку. "Я выконваў свой абавязак, ахоўваў Б. ад помсты дарослых — родных закатаванага ім дзіцяці. Але ахоўваць яго ад нянавісці дзяцей тут я не мог, ды і не хацеў. Ён павінен быў адчуць на сабе хаця б гэта".

Нянавісць такіх самых, здавалася б, ізгояў, як і ён, Б. зведваў у прыёмніку пастаянна. "Цяжкія" на волі падлеткі, непаслухмяныя дзеці аб'явілі яму ціхую вайну. Калі ўдавалася, стараліся штурхнуць, зачапіць, чым-небудзь стукнуць... Парушальнікам няпісанага закона прыёмніка — не крыўдзі бліжняга свайго! — старэйшыя рабілі заўвагі. У гэтым выпадку, я думаю, не зусім шчырыя... Але больш за ўсё ўразіла мяне іншае. Тады ж у прыёмнік прывезлі гуманітарную дапамогу — англійскія шакаладкі. Аляксандр Іванавіч вырашыў падзяліць іх на ўсіх. Без выключэння. І Б. таксама атрымаў сваю порцыю... Не хапіла духу пазбавіць дзіця салодкага. Толькі адзін раз Аляксандр Іванавіч дазволіў сабе ўспомніць, што Б. усяго дванаццаць...









Ізгоі грамадства, нелюбімыя і неабласканыя, з нараджэння паўгалодныя і пазбаўленыя элементарных рэчаў, хуліганы, задзіры, малалетнія злодзеі і наркаманы не прынялі яго ў сваю кампанію. У тых, хто ніколі не прытрымліваўся законаў афіцыйнай маралі, аказалася, быў свой кодэкс і свая мяжа паміж дапусцімым і немагчымым, паміж чалавечнасцю і зверствам, і свая мараль. Яны не пусцілі Б. у сваё асяроддзе, адразу і назаўсёды адвёўшы яму месца ЗА гэтай мяжой. Значыць, не ўсё яшчэ згублена. І не такія яны ўжо дрэнныя, калі ёсць горшыя за іх. Толькі каму пра гэта сказаць? Бацькам-алкаголікам, якім усё адно, што станецца з іх сынам? Дырэктару спец-школы, куды перададуць з рук на рукі "дзіця", якое ўжо паспела нашкодзіць грамадству? Пытанні без адказаў...

Калі я скажу, што тут утульна, безумоўна, схлушу. Дзяржава, якая шкадуе грошы на абсталяванне дзіцячых садкоў, тым больш не стане абцяжарваць сябе ўпрыгожаннем установаў падобнага тыпу. Шэры колер, голыя сцены, жалезныя ложкі... Праўда, усюды чысціня і парадак. Але весялей ад гэтага не становіцца. "Кантынгент" у прыёмніку падбіраецца розны. Адных пастаўляе беспрапынны канвеер — вакзал. Другіх здымаюць з гарышчаў, знаходзяць у падвалах, кватэрах з рэпутацыяй прытонаў... Трэція... прыходзяць па сваёй ахвоце. Вяртаюцца нават па некалькі разоў. 16-гадовы В. трапіў сюды ажно з Дальняга Усходу. Праехаў з аднаго канца ў другі ўсю тэрыторыю былога Савецкага Саюза і знайшоў прыёмнік, у якім аднойчы ўжо давялося пабываць.... Свой нечаканы "візіт" растлумачыў проста: у мінулы раз спадабалася... Гэта што — рамантыка? Самасцвярджэнне? Ці непераадольная цяга да месца, дзе цябе першы раз у жыцці ўважліва выслухалі, дасыта накармілі, паклалі спаць у чысты ложак і ні разу не ўдарылі? Бацькам В. адразу пазванілі, прапанавалі прыехаць па сына. Тыя адмовіліся — усё роўна ўцячэ. А ў прыёмніка не хапае сродкаў, каб забяспечыць хлопчыка праважатым. Таму ён паедзе самастойна. Не прывыкаць...

Лішніх грошай сёння няма ні ў кога (маю на ўвазе дзяржаўныя ўстановы). Скарачэнне штатаў не абышло бокам і абласны прыёмнік-размеркавальнік. Засталіся два выхавацелі. На час адпачынку — і ўвогуле адзін. А групы бываюць розныя — і па колькаснаму складу, і па якаснаму. Асабіста мне "не пашанцавала" — за сталамі ў вучэбным класе сядзела ад сілы чалавек дзесяць... І ўсе, як на падбор, — маленькія, худзенькія, гарэзлівыя... Адным словам, дзеці...

А бывае наадварот. Набіраецца чалавек дваццаць—дваццаць пяць дужых, высачэзных, нахабных. Кожны ўжо меў непрыемнасці з органамі аховы правапарадку... Праўда, людзі, што дзяжураць тут круглыя суткі, баяцца не за сябе. Самае агіднае — гэта перанясенне сюды, па-сутнасці ў дзіцячае (як бы там ні было) асяроддзе законаў зоны, законаў гаспадарання моцных і падначалення слабых... Кожная мала-мальская праява падобных адносін заўважаецца і перапыняецца зараз жа. Педагогі вопытным вокам падмячаюць любыя адхіленні ў паводзінах сваіх падапечных. На ноч іх кладуць спаць у розныя пакоі, удвух ці ўтрох. Дзверы ў пакоях шкляныя, над дзвярамі — ліхтар, які злёгку асвятляе спячых і дазваляе назіраць за імі. І ўдзень, і ўначы прывозяць новенькіх. Брудных, нячэсаных, вашывых... Хлопчыкаў і дзяўчынак... Іх купаюць, стрыгуць, выдаюць чыстае адзенне... Днём гэтым займаецца спецыяльны чалавек, ноччу — як прыйдзецца. Калі няма каму, Аляксандр Іванавіч сам бярэцца за гэту не вельмі прыемную працэдуру. Работа ёсць работа, а дзеці ёсць дзеці. Не кінеш жа малога на ноч у душавой толькі таму, што за яго адзенне страшна ўзяцца...

Днём тут ідуць заняткі па школьнай праграме, наколькі гэта магчыма ва ўмовах прыёмніка. Карысці ад іх, безумоўна, мала. Але многім нават цікава — даўно не бачылі падручнікаў... Кармёжка — тры разы на дзень. Да апошняга часу на дзённае харчаванне аднаго дзіцяці выдзялялася дзяржавай 60 рублёў (нядрэнна, калі ўлічыць, што я аддаю за свой абед у звычайнай сталовай у сярэднім "чацвяртны"). На дэсерт яшчэ параўнальна нядаўна давалі гранатавы сок і апельсіны (асабіста мною зусім забытыя). Здагадваюся, што ў перапынках паміж прыёмамі ежы дзеці адчуваюць сябе даволі няёмка. Іх становішча не вызначана, будучае не акрэслена. Сёння-заўтра — шэрыя сцены "прыёмніка", жыццё па раскладу, але, ва ўсялякім разе, рэгулярнае харчаванне, сон у чыстым ложку і нават штодзённыя заняткі спортам у спецыяльна абсталяваным памяшканні... А потым? Што будзе праз месяц-другі, калі скончыцца апошні тэрмін знаходжання тут, у месцы, дзе іх усё ж такі лічаць дзецьмі? Ці ёсць шанц на выпраўленне? На выратаванне?

На жаль, большасць "візіцёраў" амаль безнадзейная. І няма каго вінаваціць. Акрамя (прабачце за штамп) таго ж самага грамадства з перавернутымі каштоўнасцямі, на якое і так ужо панавешвалі незлічоную колькасць "сабак". Акрамя дзяржавы, якая не можа стварыць сем'ям нармальныя ўмовы жыцця. Раней нас вучылі: усе беды — ад раскошы. Арыентавалі, так сказаць, на пэўную планку, за якой нібыта — маральнае атупленне, дэградацыя і бездухоўнасць. Але рэдка хто з дзяцей збягае ад раскошы ў пошуках нейкіх там ідэалаў. Бягуць ад беднасці. Бягуць з галай і бруднай кватэры, каб не чуць брыдкай лаянкі, не бачыць матчыных слёз... Бягуць як мага далей...

Пакуль мы размаўлялі і хадзілі па прыёмніку, скончыўся дождж. Я ўявіла, як хутка выйду адсюль, і з палёгкай уздыхнула... Дома даўно чакае дачка з гарой нячытаных кніжак. "Мамачка, табе зноў няма калі?"

Не, сёння мы абавязкова што-небудзь пачытаем. Ці пагаворым "пра жыццё". Ці разам пагуляем... Менш за ўсё хочацца, каб калі-небудзь родны дом здаўся ёй чужым і халодным.

Наталля СТРАЛКОВА.
Фота С. БРУШКО.

## Таня ЖЫГАЛА



Мы сядзім ва ўтульным Таніным пакоі. Я трымаю ў руках сшытак з Танінымі вершамі. Побач са мною — яна, Таня Жыгава, шэра-зялёныя вочы, цёмныя, кучаравыя валасы і мілыя канапушкі.

— Таня, некалькі слоў пра сябе.

— Пра сябе? Нарадзілася 8 кастрычніка 1979 года ў Мінску. Зараз вучуся ў 8-м класе 2-й мінскай школы.

— Чым ты любіш займацца?

— Звычайна займаюся хатнімі справамі і падрыхтоўкай да ўрокаў. Калі ёсць час, саджуся і спрабую нешта стварыць. І амаль заўсёды атрымліваецца. Таксама люблю гуляць з сябрамі.

— Ты даўно пішаш вершы?

— З 7-га класа. Адразу пачала пісаць па-беларуску. Мне вельмі падабаецца наша настаўніца Валянціна Іванаўна. Яна шмат расказвае пра пісьменнікаў, дзе хто нарадзіўся, як праходзіла іх жыццё.

— А якія ўрокі табе здаюцца больш цікавымі?

— Тыя, на якіх мы гаворым пра вершы, паэмы, калі разглядаем іх падрабязна. Настаўніца ўсё нам тлумачыць.

— А сачыненні любіш пісаць?

— Не вельмі, бо трэба пісаць на зададзеную тэму.

— А жывую беларускую мову ты дзе-небудзь чуеш?

— Мая бабуля, якая жыве ў вёсцы, размаўляе па-беларуску. І калі я прыязджаю туды, заўсёды чую беларускую гаворку.

— Ты любіш прыроду?

— Раней я была больш хатнім чалавекам, а цяпер часцей бываю на вуліцы і назіраю за прыродай.

— Што табе не падабаецца ў жыцці?

— Тое, што шмат часу трэба аддаваць справам, якія не вельмі хочацца рабіць. Не люблю выхоўваць малодшага брата — шкодлівы.

— Чым ты хацела б займацца далей?

— Хацела б таксама пісаць вершы, ствараць музыку.

— Ты іграеш на якім-небудзь інструменце?

— Трошкі на фартэпіяна. Мяне вучыць мой стрыечны брат.

— А будучая прафесія?

— Яшчэ не ведаю.

Мы адкрываем сшытак з Танінымі вершамі. Яны яшчэ недасканалыя, гэта толькі першыя крокі, але шчырыя і светлыя. Гэта — пачатак, і мы з цікавасцю будзем чакаць працягу.

**Аксана ДАНІЛЬЧЫК.**

# ВЕРШЫ НА "НЕЗАДАДЗЕНУЮ" ТЭМУ

### МАЯ ХАТА

Стаіць яна
Каля вялікай рэчкі,
Каля прыгожых, белых дрэў,
Кустоў, каля высокіх, светлых берагоў.
Стаіць адна ў цішыні прасторы,
Стаіць і думае аб тым,
Як усё гэта прыгожа,
Як добра ў свеце жыць
Вялікім людзям,
чытаць, пісаць і сачыняць.
І колькі гора яны перажылі
У гэтым свеце.
У гэтым добрым, але вялікім свеце.

### БАГДАНОВІЧ

А Багдановіч усё ж такі вялікі,
І за сваё маленькае жыццё
Нямала напісаў цікавых вершаў
Пра беларускае жыццё.

### ЖЫЦЦЁ

У Караткевіча вялікае жыццё,
У якое ён уклаў нямала працы.
І тыя словы з вершаў і паданняў
Жывуць у сэрцы нашым.

### МОЙ КРАЙ

Мой край!
Вялікі край!
Дзе сонца свеціць
І цячэ рака,
Дзе птушкі ўсе спяваюць
І стаіць вярба,
Якая стала роднай на ўсё маё жыццё.
Мой край!
Забыць цябе я не змагу ніколі,
Я буду памятаць цябе заўсёды,
Як роднага мне чалавека.

### БУСЛЫ

Зямля мая засеяна бусламі,
Яе завуць зямлёй
Пад белымі крыламі.
Буслы ўсе белыя, як чысты снег,
І ўсе яны апрануты ў футро.





## СВЯТЛО І ЧЫСЦІНЯ



У сучасным жыцці нават у дзіцячым свеце іх не хапае. Таму асабліва радасна, калі раптам напаткаеш па-сапраўднаму дзівосна-яскравую, чысцюткую душу. Надзвычай каштоўным з'яўляецца тое, калі дзіця не губляе духоўнай сувязі з бацькамі. Менавіта гэтае назіраецца ў сям'і Кулецкіх, што ў Пружанах. Ірынка, якой трынаццаць гадоў, іграе на скрыпцы, малюе. Маці, сама мастачка-аматар, увогуле тое, што ўмее, імкнецца перадаць дачцэ. Праз малюнкі Ірыны праніклівымі яскамі дзіцячай душы прыўносіцца ў штодзённы быт шчырая непасрэднасць і неверагодная святлявасць яе існавання.

**Юлія АЛЕСЬНІНА.**



# ПРАЦЯГ БУДЗЕ

(Пачатак у №№ 34-36, 38, 39.)

Пачуў гук зачыненых за Хлодзікам дзвярэй. Акуратна, адным пальцам яшчэ раз націснуў кантакт і, пачуўшы ціхае "Слухаю, таварыш сакратар", кінуў:

– Таварыш Хлодзік няхай пачакае. Мне – кілішак каньяку – і не замінаць.

Азнаямленне са змесцам папер у прынесеных Хлодзікам тэчках адняло ў яго амаль тры гадзіны. Улічваючы ягоную спрактыкаванасць у падобным занятку, гэта было шмат, але рашэнне, якое мела быць прынятае, таго патрабавала. Ад выбару чалавека, якога ўжо называў "Іксам", залежала будучыня свету, Еўропы і дакладна яго самога. Вырашыў згуляць у гэтую гульню. Што, праўда, не меў вялікага выбару (ягоны суразмоўца даў гэта ясна зразумець), але за дзесяцігоддзі сваёй працы знаходзіў выйсце і не з такіх становішчаў. Гэтым разам мог выйграць усё: уладу, якая ані снілася ні яму, ні ягонай сям'і.

Пачаў аднова. Амаль нячутна ўзяў верхнюю тэчку з надпісам: Міністэрства ўнутраных спраў. Асабістая справа № 113432. Кшыштаф Дуброва.

Гэтым разам вырашыў зрабіць адбор. Каб аблегчыць справу, праглядаў толькі асобныя дакументы. Спачатку здымак. Палкоўніка Дуброву ведаў добра. Меў да яго вялікі давер як да прафесіянала і знаўцы праблем кліру. Дуброва пад час працы ў Чацвёртым дэпартаменце аказаў аддзелу неацэнныя паслугі. Ягоная агентура цудоўна вызначылася ў 1979 годзе, пад час першага візіту Яна Паўла II у Польшчу. Менавіта дзякуючы ягоным намаганням шчасліва адрапартавалі ў ЦК: "Ход візіту Яна Паўла II не пацвердзіў надзей касцельнай ерархіі".

Пра гэтыя поспехі Краеўскаму нагадала маленькая картка: "Таварыш Дуброва за акцыю "Лета-79" адзначаны грашовай узнагародай у суме 5000 злотых".

Рапарт: "...Прашу прыняць мяне на службу ў міліцыю...". Хутка прагледзеў анкеты: народжаны ў 1930 годзе на Любэльшчыне, у сям'і, акрамя яго, пяць дзяцей, веравызнанне – рыска, З 1947 года ў органах. Пачынаў у пастарунку, потым – школа міліцыі і зноў практычная работа. Ад пачатку выразна не любіў кліру. Добра, аднак, ведае праблематыку, лёгка знаходзіць знаёмствы. Службовая характарыстыка: у ПАРП з 1952 году, аддан партыі. Заслужыў накіраванне ў афіцэрскую школу. Пасля школы – чарговыя павышэнні. Рапарты аб гэтым Краеўскі перакінуў, не чытаючы. Усе яны падобныя між сабой і ні аб чым не сведчаць. Сапраўдная інфармацыя ў канцы. Яе няшмат. Адзначаны ордэнам Штандару Працы II класа. "Хадайнічаю аб узнагароджанні плк.Дубровы Кшыштафа залатым гадзіннікам", чэрвень 1977 і нататка – зацвярджаю – Краеўскі.

Так, усё даказвала б, што гэта той, калі б не маленькі даносік, напісаны на вырваным з нататніка аркушыку. "...21 мая 1982 года я бачыў плк.Дуброву на імшы ў парафіяльным касцёле ў Аполі Любэльскім. Браў удзел у рэлігійным абрадзе пад час пахавання сваёй маці. Выглядала, што не хацеў быць пазнаным. Улічыўшы магчымасць помсты з ягонага боку, прашу аб пільным захаванні гэтай інфармацыі. Да ведама таварыша дырэктара – капітан Мурэк".

Краеўскі з выразным раздражненнем адклаў тэчку. На жаль, гэты прыклад нізкай маральнасці цалкам дыскрэдытаваў палкоўніка. А Краеўскі не трываў людзей немаральных.

Другую тэчку таксама адклаў убок. Так, бадай, знайшоў тое, што шукаў. Гэта той. Адзіны давераны і патрэбны чалавек. Але Краеўскі, захаваўшы сваю сістэматычнасць, дзеля парадку яшчэ раз прагледзеў пакінутыя дзве тэчкі.

Біяграфія палкоўніка з трэцяй тэчкі таксама была яму вядомай. Народжаны ў 1927 у Валыні. Сям'я жыве там дагэтуль. Брат працуе ў калгасе "Новы свет". У 1942 годзе скончыў гімназію ў Вільні, з верасня 1944 – у адроджаным Войску Польскім, скончыў школу І Арміі ў Грыфіцах. Змагаўся з бандамі УПА. З 1947 года ў аперацыйнай секцыі, у 1956 годзе скончыў школу ў Кентжыне, 1959 – Акадэмія Генеральнага Штаба і з 1965 года – МУС. Біяграфія, як шмат іншых, але Краеўскі ведаў палкоўніка Міхалка як адданага таварыша. З 1947 года ў ПРП, потым у ПАРП, доўгая і ахвярная партыйная дарога. У 1968 годзе быў заахвочаны за распрацоўку сіяністычнай сеткі ў ведамасным школьніцтве і быў павышаны да палкоўніка. 1975 год – маленькая картка з тэкстам: "Польская Народная Рэспубліка. Міністр унутраных спраў. Прызначаю Вас Паўнамоцным прадстаўніком міністра ўнутраных спраў у пытаннях арганізацыі адзінак Грамадзянскай міліцыі і службы бяспекі. Подпіс: Станіслаў Кавальчык". Гэтыя гады Кавальчык памятаў добра, але тэчка павандравала ўбок. Занадта стары. Краеўскі ведаў: у гэтым веку ўжо не гавораць пра ўладу, і, акрамя таго, зашмат зялёнага колеру. Хай гэта старыя карпарацыйныя забабоны, але сам успамін пра зялёны мундзір і шырокую ўсмешку на твары шэфа міліцыі Кішчака прымусіў сакратара скрыгатнуць зубамі. Ён адкінуў тэчку. Не, да гэтай справы "зялёных" ён не дапусціць. Верыць па-сапраўднаму ім нельга.

Зірнуў на гадзіннік. Быў ужо поўдзень. Адчыніў дзверы ў сакратарыят. Хлодзік ажно падскочыў у фатэлі.

– Моцную каву, – кінуў Краеўскі ў бок сакратаркі.

Павольна вярнуўся да апошняй з пакладзеных на стале тэчак. Тут меў найбольш сумненняў. На здымку, што знаходзіўся ў сярэдзіне, малады, інтэлігентны капітан. Аднак жа гэты выгляд інтэлектуала яго не зблытаў: гэта быў не Смоўж. Краеўскі назіраў за ягонай хуткай кар'ерай ужо некалькі гадоў. Пётр Гжэгажэўскі прыйшоў у Службу Бяспекі пасля вышэйшай школы. Вучыўся хутка. Запісаў у асабістай справе было няшмат. Адзінае дзіця, напалову сірата.

Рапарт аб прыёме на службу: "З'яўляюся атэістам, жадаю як найлепш служыць сацыялістычнай Айчыне, працуючы ў органах бяспекі...".

Краеўскі перакінуў рапарты аб павышэннях па службе, рапарты кіраўніцтва, вынікі тэстаў: безумоўна, інтэлігентны. Апошняе месца прызначэння – Чацвёрты дэпартамент, пасада намесніка кіраўніка. Адсутнасць даносаў, скаргаў. Так, калі б толькі быў трохі старэйшым. Акрамя таго – матывацыя. Сакратар з выразнай прыемнасцю ўспомніў спатканне ў 1982 годзе, калі пачуў выступ Гжэгажэўскага на сходзе Камітэта ПАРП. Такія афіцэры службе патрэбныя, уздыхнуў ён. Паўсюль гэтая шэрасць. З роздуму яго вырвала нясмелае пакашліванне. Падняў галаву. У дзвярах стаяў Хлодзік.

Так, прыйдзе яшчэ час на Гжэгажэўскага, але пакуль няхай пачакае, падсумаваў Краеўскі ў думках свае перасцярогі і прыняў рашэнне. Сунуў у шуфляду раней адкладзеную тэчку.

– Слухайце, Хлодзік, – сказаў ён вельмі ціха. – Не было вас тут сёння, не было сёння гэтых тэчак, не было нічога. Зразумела?

Хлодзік спраўна прыняў пададзеныя яму Краеўскім дакументы і, адной рукой зашпільваючы пінжак, а другой прыціснуўшы да сябе тэчкі, усміхнуўся.

– Слухаю, таварыш сакратар!

*Варшава,*
*той самы дзень, гмах МУС*

Падпалкоўнік Юзэф Гураль, высокі, сімпатычны мужчына, у якога былі закаханы ўсе сакратаркі аддзела, ужо некалькі месяцаў выконваў абавязкі начальніка аддзела ў Чацвёртым дэпартаменце Міністэрства ўнутраных спраў. Заўсёды казаў, што мае ў жыцці толькі тры перашкоды: шмат кахання, шмат кавы і шмат працы. Як звычайна пачаў дзень з прагляду газет. Увесь друк на першых старонках змясціў паведамленні пра ўчорашнюю пастанову Дзяржаўнай Рады аб "прыпыненні з 31 снежня гэтага года вайсковага стану на ўсёй тэрыторыі Польшчы". Прагледзеў рэдакцыйныя каментары, якія абгрунтоўвалі веліч і палітычнае значэнне гэтага кроку.

Ясна, падумаў ён, адварочваючы вочы ад старонак "Трыбуны люду", улада пайшла на далёка сягаючыя ўчынкі. Нават не спадзяваўся, што яны адбудуцца так хутка. Звольнены ўсе інтэрніраваныя, скасаваная афіцыйная цэнзура карэспандэнцыі, змоўк абыякавы голас у тэлефоннай слухаўцы, што папярэджваў аб кантролі за размовамі, атрымана згода на сходы ў грамадскіх месцах, зразумела, пасля атрымання дазволу адпаведных устаноў.

Аднак гэта было прыпыненне, а не скасаванне вайсковага стану. Працягвала існаваць магчымасць яго вяртання, калі падзеі рушылі б не адпаведна прадугледжанаму кіраўніцтвам партыі сцэнарыю. Яшчэ ў той самы дзень друк перасцерагаў ад любых спроб вяртання да часоў анархіі і хаосу. Парушальнікі грамадскага парадку, называныя цяпер "антысацыялістычнымі элементамі", мусілі лічыцца з адпаведнымі крокамі апарату прымусу ў выпадку, калі б яны зноў пачалі спробы анархізацыі палітычнага жыцця ў Польшчы. На ўсялякі выпадак не былі адкліканы вайсковыя камісары з фабрык і дзяржаўных установаў. Тая частка інтэрніраваных, да якой меліся падазрэнні ў непадпарадкаванні прававому парадку, была паклікана на доўгатэрміновыя вайсковыя зборы ці пры першай магчымасці яны ў спешным парадку асуджаліся на пазбаўленне волі.

Гураль устаў і падышоў да дзвярэй, што аддзялялі яго ад сакратарыята. Там працавала, прынятая па рэкамендацыі аднаго з супрацоўнікаў, Марыя Зентарска. Маладая, зграбная, а таксама тактоўная і ветлівая. Можна сказаць, чалавек на сваім месцы. Якраз вешала каляровы шар на яловую галінку. "Так, праз некалькі дзён свята",– падумаў ён.

– Чым магу служыць, таварыш палкоўнік?– першай загаварыла сакратарка.

– Папрашу моцную каву. І выклічце маёра




Сконецкага,– усміхнуўся ён дзяўчыне. Любіў назіраць, як вадзіла за ім захопленымі вачыма.– Няхай прыйдзе так хутка, як толькі магчыма.

– Канешне, ужо выклікаю яго.

Маёр Аляксандр Сконецкі ягоны намеснік. Былі равеснікамі, а пазнаёміліся і пасябравалі яшчэ пад час навучання. Ужо з першага году іх звязала дзейнасць у Саюзе Сацыялістычнай Моладзі.

Колькі разоў штотыднёвыя сходы былі прычынай начных выпівак у кампаніі не выключна мужчынскай. Менавіта пад час такіх спатканняў можна найлепш пазнаць чалавека. Можа, уласна праз тое Сконецкі атрымаў прызнанне Гураля. Які ўжо пад час навучання быў немалым дзеячам ССМ. Уласна, яго правай рукой. Узгадвалі, як цэлую ноч ламалі галовы над адказам на адкрыты ліст Куроня і Модзелеўскага да сяброў ПАРП. Які змяшчаў прапановы неабходных, на думку аўтараў, рэформаў. Менавіта гэтыя напружаныя начныя дыскусіі зблізілі іх паміж сабой.

На атаку тых інтэлектуалаў, вылучыўшых саміх сябе з працоўных масаў, тады адказалі проста і станоўча. Не, не былі праз нікога інспіраваныя. Гэта вырасла з патрэбы сэрца, з патрэбы супрацьстаяць гэтым ашалелым касмапалітам. Можа, уласна таму праз некалькі гадоў Юзэф Гураль звярнуў на сябе ўвагу аднаго з сакратароў Варшаўскага камітэту ПАРП. Яна Кемпы. Малады студэнт, які адным з першых заняў слушную пазіцыю, мусіў выклікаць цікаўнасць і давер. І не варта, зразумела, было губляць яго з поля зроку. Такіх памылак партыя не магла сабе дазволіць.

На студэнта Варшаўскага універсітэту, які вызначыўся ў палітычнай дзейнасці, увагу Кемпы звярнуў намеснік кіраўніка студэнцкага камітэту ССМ у Варшаве Ежы Куявяк, асістэнт кафедры механікі Варшаўскага політэхнічнага, які, дарэчы, фігураваў у картатэцы тайных супрацоўнікаў Службы Бяспекі. Сярод ягоных абавязкаў быў, паміж іншым, пошук сярод студэнтаў маладых людзей, сярод якіх Служба Бяспекі магла набіраць сабе кандыдатаў. Праз нейкі час Кемпа атрымаў асабістую справу студэнта Юзэфа Гураля з пазітыўнай рэкамендацыяй Куявяка. Пэўна, было цікава, калі сакратар, пазнаёміўшыся з сабранымі ў ёй дакументамі, пажадаў – што рэдка з ім здаралася – асабіста пазнаёміцца з маладым актывістам. Такая магчымасць выпала праз некалькі тыдняў на рабочым спатканні маладзёжнага актыву варшаўскіх вучэльняў з кіраўніцтвам Выканкаму Варшаўскага гарадскога камітэту партыі.

– Чуў шмат добрых водгукаў пра вас, таварыш Гураль, – пачаў Кемпа.– Актыўнасць кіраванай вамі арганізацыі ССМ ёсць прыкладам іншым. У дадатак, вы першымі зрэагавалі на рэвізіяніцкі ліст Куроня і Модзелеўскага. Я ўжо не гавару пра вашу прынцыповую пазіцыю пад час сакавіцкіх падзеяў. Прыклад, годны наследавання.

Гураль, трохі змешаўшыся ад тых пахвал, не ведаў, як на іх рэагаваць. Тым больш, што не ведаў, да чаго вядзе сакратар.

– Але ж, таварыш сакратар, не мне належыць прыпісваць усе гэтыя заслугі. Перш за ўсё памятайце пра калектыў, у якім я штодзённа працую. Усё гэта...

– Не трэба фальшывай сціпласці,– Кемпа ўзяў бацькоўскі тон, што не адпавядала ягонаму паўсюдна знанаму стылю.– Ведаю шмат вашых равеснікаў, тым больш, што праблемы моладзі цікавяць мяне як ніякія іншыя. Рэдка хто ў вашым узросце выказвае падобную сталасць. Менавіта такія людзі нам патрэбны. Ведаеце, гм, я нават маю для вас адну канкрэтную прапанову.

Узяў яго за плячо і адвёў трохі ўбок.

– Наколькі мне вядома, праз некалькі месяцаў вы скончыце навучанне і прыйдзе час падшукаць нейкую работу. Вы ўжо нешта прыглядзелі?– запытаў ён канфідэнцыйным шопатам.

– Не, нічога. Яшчэ нават не думаў аб гэтым,– зманіў Гураль, спадзеючыся прапановы добрай пасады ў маладзёжным аддзеле.

– Вось, бачыце! А мы пра вас памятаем і думаем. Добра паказалі сябе ў дзейнасці пад час навучання, час цяпер заняцца чымсьці больш сур'ёзным. Што вы адказалі б на прапанову працы ў органах бяспекі? Бачыце самі, што там адбываецца пасля сакавіка. Мы ачысцілі шэрагі ад касмапалітычнай пацярухі і на гэтыя месцы патрэбны новыя людзі. Асабліва такія, як вы: маладыя, але ўжо выпрабаваныя ў штодзённай барацьбе, інтэлігентныя і прынцыповыя. Не мусіце адказваць мне адразу. Калі, аднак, вырашыце прыняць гэтую прапанову, можаце, спаслаўшыся на мяне, закантактаваць з кадроўцам з МУС. Запомніце, таварыш Гураль, мы сапраўды разлічваем на вас і спадзяёмся, што вы апраўдаеце наш давер.

Дакладна праз тыдзень па атрыманні дыплому аб сканчэнні вышэйшай вучэльні Гураль ужо пісаў рапарт і аўтабіяграфію.

"Звяртаюся з просьбай прыняць мяне ў шэрагі функцыянераў Службы Бяспекі. Просьбу сваю матывую шчырым жаданнем служэння Партыі і Народнай Польшчы, абароны сацыялістычнай Айчыны і барацьбы з ейнымі ворагамі".

За напісанне падрабязнага жыццяпісу сеў увечары. Праца гэтая заняла добрых некалькі гадзін. Як ў некалькіх фразах змясціць цэлыя 28 гадоў жыцця?– задумаўся ён. Аб чым пісаць, як пісаць, што падкрэсліць, а што абмінуць? Якія факты могуць асабліва зацікавіць кадроўца, што будзе займацца кандыдатам у агенты бяспекі? Можа бацька, які ў 1954 годзе апрануў мундзір міліцыянта і змагаўся з праціўнікамі народнай улады? Ягоная трагічная смерць ад рук "рэакцыйнага падполля" і назіраўшы за ёй з маўклівай згодай капелан забойцаў... А пазней мясцовы пробашч, які не даў згоды на хрысціянскае пахаванне, хаця з пакалення ў пакаленне ўсе ў сям'і былі каталікамі. Так, такія хвіліны помняць да канца жыцця. Прыніжэнне маці, калі цела ейнага мужа лягло ў неасвечаную частку зямлі вясковых могілак, побач з самазабойцамі і герэтыкамі. Пакемлівасць суседзяў, маўклівыя двухсэнсоўныя паўусмешкі. Меў тады ледзьве сем гадоў. Спачатку не разумеў, чаму нечакана перастаў хадзіць з маткай у касцёл на нядзельную імшу. Не ведаў, чаму з іхняга дома зніклі крыжы і абраз Маці Божай, які раней вісеў у вялікім пакоі, чаму, як раней, не ўкленчвалі з маткай увечары, каб прасіць у бога здароўя для ўсяе сям'і. Прычыну зразумеў толькі праз гады. І калі зразумеў, загарэўся нянавісцю да ўсяго, што мела нейкае дачыненне да Касцёла. Кожная святыня, кожны сустрэты на вуліцы ксёндз абуджалі ў ім агіду. Сціскаліся кулакі, ажно выць хацелася пры ўспаміне аб пробашчы, які казаў маці прымацца да сваіх – да чырвоных – каб яны пахавалі закатаванага рэакцыйнымі бандамі каханага мужа.

Так, з такім жыццяпісам не меў ніякіх клопатаў з прыёмам на працу ў органы бяспекі.

Першым месцам ягонай працы быў сурова, амаль аскетычна абстаўлены невялікі пакойчык у Палацу Мастоўскіх – сядзібе варшаўскай бяспекі. Ці ўжо тады быў вырачаны на поспех?

Увосень 1973 года ён быў выкліканы палкоўнікам Янушам Траяноўскім у сядзібу Міністэрства Унутраных Спраў на Ракавецкую. Гэты загад не здзівіў яго. Падсвядома чуў, што прыйдзе ўзнагарода за чатыры гады сумленнай працы.

Але калі так, дык на што мог разлічваць: на раптоўнае павышэнне ці на атрыманне надзвычайна важнага задання? Халодны разлік паказваў: ці адно, ці другое.

Гураль яшчэ ніколі ў жыцці не гаварыў з міністэрскімі тузамі. Якім жа было ягонае здзіўленне, калі палкоўнік Траяноўскі аказаўся вельмі прыемным чалавекам. Не такімі Гураль уяўляў сабе людзей, што сядзелі і працавалі ў гэтым таямнічым нават для яго гмаху на Ракавецкай.

(Працяг будзе).

Пераклад з польскай
У. Панады

# КАСТРЫЧНІК БЕЛАРУСКІ

2/19. Свята ў гонар св.Зосіма. Існуе павер'е, што калі на Зосіма ўздымаюцца журавіны, на Пакровы будзе мароз.

3/20. Дзень св.Астаф'і. У гэты дзень прыкмячалі, які вецер дзьме. Калі паўночны – будзе холадна, паўднёвы – цёпла, заходні прынясе дождж, усходні – сухое надвор'е.

4/21. Дзень св.Францыска. Да гэтага часу трэба было прыбраць усё жыта ў полі.

7/24. Пачынаецца Бабіна лета, свята ў гонар язычніцкай багіні Мокашы. Звычайна з гэтага дня пачынаецца пацяпленне.

8/25. Дзень св.Сяргея. Пачынаецца так званы жалезны тыдзень. У гэтым своеасаблівым народным абрадзе захаваліся рэшткі культу язычніцкага бога Жыжаля. Пад час жалезнага тыдня людзі чысцяць, змазваюць, даводзяць да ладу жалезныя рэчы, каб не папсаваліся і не паржавелі за год.

9/26. Дзень св.Івана (Іван Шаптун). Раней дзесьці ў гэты час сваxі пачыналі перагаворы з жаніхамі пра нявест (шапталіся), каб на Пакровы зрабіць вяселле.

10/27. Дзень св.Савасцея. Звычайна ў гэты дзень пасечнікі хавалі вуллі на зіму.

11/28. Пакроўны Бацька – Дзяды перад Пакравамі. Праводзіліся на Магілёўшчыне.

14/1. Пакравы. Рэлігійнае хрысціянскае свята, прысвечанае заступніцы Багародзіцы. Лічылася, што пасля Пакравоў пачынаецца зіма. У гэты час, калі заканчваліся асноўныя сельскагаспадарчыя работы, гуляліся сялянскія вяселлі.

"Багародзіца – дзева, пакрый зямлю сняжком, а мяне, маладую, жанішком".

21/7. Дзень св.Трыфана і Палагеі. Звычайна ў гэтыя дні ўжо вельмі холадна. "Трыфан кажух мацае, Палагея рукавічкі вяжа".

23/10. Дзень св. Аўлампія. У гэты дзень загадвалі пра зіму. Калі рогі месяца паказваюць на поўдзень – будзе позняя зіма, на поўнач – суровая.

25/12. Дзень св.Марціна. Святкуюць яго млынары.

28/15. Дзень св.Параскевы Пятніцкай. Каталікам забараняецца працi ў гэты дзень.

29/16. Дзень св.Логіна. Гэты святы лічыцца апекуном усіх, хто пакутуе на вочы. Ён пазбаўляе людзей ад такіх хвароб.

30/17. Паклоны. Рэлігійнае свята, у якое веруючыя "адбіваюць паклоны" пакутніку Андрэю Крыцкаму.

31/18. Дзень св.Лукі. У гэты дзень нельга сеяць азімыя.

# ПАЛОМНІЦТВА ПРАЗ



Пасля зацяжных восеньскіх халадоў раптам устанавілася некалькі цёплых дзён. Нават неба зноў набыло блакітны колер. Прырода зрабіла людзям падарунак. Яна быццам таксама вырашыла адсвяткаваць слаўную дату — 1000-годдзе праваслаўнай царквы на Беларусі.

Малінавыя пералівы званоў Мінскага Свята-Духава Кафедральнага сабора далёка разносяцца ў вячэрнім паветры. Святары ў залатым і чорным убранстве, святочна апранутыя вернікі. Мітрапаліт Мінскі і Гродзенскі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі Філарэт і іншыя святары сустракаюць замежных гасцей. Як толькі апошні з іх увайшоў у сабор, загучала старажытнае песнапенне "Уподобиться в славе..."

Усё гэта напаўняла душу якімсьці цёплым пачуццём. Здавалася, што цела становіцца бязважкім, што вось-вось прыпадымешся над зямлёю. Штосьці падобнае, пэўна, адчувалі і іншыя, бо вочы вернікаў святлелі, на іх тварах з'яўлялася пачуццё спакою. Маленькая дзяўчынка на руках у мамы трымала свечку. Вось яна старанна ўмацоўвае яе. Іх змянілі юнак з дзяўчынай. Яны пераглянуліся і паставілі свае свечкі... Раптоўна з'явілася пачуццё, быццам з цемры стагоддзяў забыцця сплывае першая манахіня ўсходніх славян Рагнеда, першая ўсходнеславянская святая Ефрасіння, фундатар полацкага Сафійскага сабора Усяслаў Чарадзей, "златоуст, паче всех воссиявший на Руси" Кірыла Тураўскі, палкаводзец і змагар за праваслаўную веру Канстанцін Астрожскі і шмат іншых. Яны быццам бы прыйшлі да нас, каб упэўніцца, што справы іх былі не марнымі, што народ беларускі застаўся верным іх ідэалам.

А свята працягвалася. І адноўлена была яшчэ адна старажытная традыцыя. З даўніх-даўніх часоў існаваў звычай на вялікія святы рабіць паломніцтвы — пешшу хадзіць у святыя месцы. На Беларусі такім месцам быў Полацк. Да святынь гэтага горада сцякаліся тысячы і тысячы паломнікаў. Калі ж у пачатку нашага стагоддзя мошчы прападобнай Ефрасінні былі перавезены ў яе родны горад, то гэта падзея стала святам для ўсяга народа. І менавіта да яе пачалі хадзіць людзі. Пасля рэвалюцыі гэты звычай быў забаронены. Ефрасінню абвясцілі цемрашалкай. Ды і храм, дзе стаяла рака з яе мошчамі, быў закрыты...

І вось паломніцтва. Праўда, не пешшу, бо часы зараз не тыя. Калона аўтобусаў накіроўваецца ў Заслаўе. Там на старажытным гарадзішчы Замэчак (якое памятае яшчэ Рагнеду і яе сына Ізяслава) устаноўлены масіўны каменны крыж. Каля яго ў час асвячэння былі пасаджаны два дрэўцы. Філарэт сказаў: "Бярозка і клён — гэта ж Рагнеда і Ізяслаў".

А затым была сустрэча на Цэнтральнай плошчы горада. І шэсце з хрэсным ходам да Спаса-Прэабражэнскага храма. Ля гэтых старажытных муроў быў адслужаны малебен.



# КАЛЯНДАР

*Міфалогія*

## ЖЫЖАЛЬ

У імені гэтага бога чуцен звон металу і гудзенне полымя. І гэта нядзіўна, бо Жыжаль — Бог полымя і кавальскай справы. Калі верыць легендам, то менавіта ён выкаваў раскошныя калясніцы (залатую і срэбраную) для Сонца і Месяца. Славутыя стрэлы-маланкі Перуна — таксама яго рук справа. Аднойчы, калі Жыжаль не на жарт закахаўся, з-пад яго молата выйшла нават такая крохкая рэч, як вясёлка. І гэты, на першы погляд, бескарысны выраб настолькі ўразіў прыгажуню багіню, што яна згадзілася назваць яго сваім мужам. (Мы з вялікай верагоднасцю можам сцвярджаць, што гэта была Лада).

У язычніцкіх рэлігіях іншых народаў існуюць багі, функцыі якіх супадаюць з функцыямі Жыжаля. Перш за ўсё гэта грэчаскі Гефест і скандынаўскі Логе. Але характары ў кожнага з іх вельмі розныя. Так, Гефест — кульгавы, змрочны, даволі тупаваты бог. Ён быў пакрыўджаны з самага дзяцінства, бо родная маці скінула яго з неба на зямлю. Ад гэтага і кульгавасць. Гефест страшэнна раўнуе "да кожнага пня" сваю жонку, чароўную Афрадыту. Логе — іншы. Ён хітры, каварны, увесь час імкнецца да ўлады. Сваім шлюбам з Фрэяй (калегай Афрадыты і Лады) ён жадаў толькі ўмацаваць сваё становішча сярод багоў. Для гэтага Логе спекуляваў тым, што без майстэрства Фрэі яны хутка састарацца. Такім чынам, ён імкнуўся заняць у рэшце рэшт месца вярхоўнага бога.

Жыжаль на такім фоне выглядае значна больш прывабным. Ён моцны амаль гэтак жа, як Пярун, але яшчэ і значна маладзейшы за таго. Бог-каваль добры да людзей і з вялікай ахвотай адорвае іх цяплом і святлом. Ён ні ў якім разе не прэтэндуе на ўладу сярод багоў. Яму дастаткова таго, што яго шануюць і паважаюць людзі. І сапраўды, да кавалёў (апекуном якіх ён з'яўляўся) у старадаўнія часы ставіліся з вялікай павагай. Выклікана гэта было тым, што кавалём стаць мог не кожны нават вельмі моцны чалавек. Акрамя моцы трэба было мець яшчэ і творчы характар. А такое спалучэнне ў адным чалавеку лічылася дарам багоў.

Не быў Жыжаль і раўніўцам. У яго не было патрэбы раўнаваць жонку да каго б там ні было. Бо хто ж мог параўнацца з ім па сваіх годнасцях? Таму ён заўжды вясёлы, шчаслівы і духоўна ўраўнаважаны.

Ушаноўванню Жыжаля прысвечана адно з самых прыгожых язычніцкіх святаў — "Жаніцьба Пасвета". Адзначаецца яно ў верасні, калі яшчэ даволі цёпла, але ноч ужо надыходзіць дастаткова рана, і людзі адчуваюць патрэбу ў асвятленні сваіх хат. Пасвет — гэта самаробны падвясны свяцільнік. У ім звычайна гарэлі дзве альбо больш свечак. Людзі прыносілі ў ахвяру гэтаму маленькаму хатняму агню масла, а часам і што-небудь іншае. Каля яго спяваліся спецыяльныя абрадавыя песні. Моладзь распачынала гульні. Пасвет упрыгожвалі гірляндамі з лісця і асенніх кветак. Хатні агонь сімвалічна абручалі з чалавечым каханнем. Жыжалю ў які ўжо раз "аддавалі ў жонкі" Ладу. Людзі марылі пры гэтым, каб багі зрабілі такой жа шчаслівай, як у Жыжаля з Ладай, жыццё той сям'і, у якой праводзіўся гэты абрад. А паколькі свята праходзіла практычна ў кожнай хаце, то атрымлівалася, што ўся вёска прасіла багоў аб адным і тым жа. Абрад гэты, хаця і з вялікімі змяненнямі, але дайшоў і да нашага часу.

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА,
Мікола БАГАДЗЯЖ.

# ТЫСЯЧУ ГАДОЎ



Ізноў дарога. Шлях наш ляжыць у найстаражытнейшы горад Беларусі Полацк. Гэты горад даў нашай культуры цэлы шраг сваіх сыноў. Сярод іх і такія зоркі сусветнай велічыні, як Францыск Скарына і Сімеон Полацкі. Гэта яго званы паклікалі з далёкага Кіева князя Усяслава Чарадзея. І быў іх зоў такі, што Усяслаў дзеля роднага Полацка кінуў вялікакняжацкі прастол. Гэта ў ім здзейсніла свой подзвіг Ефрасіння.

Амаль з дарогі (толькі паспеўшы уладкавацца ў гасцёўні) накіраваліся ў Свята-Крыжа Уздзьвіжэнскі сабор Спаса-Еўфрасіньеўскага манастыра на вячэрняе святое набажэнства. Наведваннем гэтага храма пачаўся і наступны дзень. У 6 гадзін раніцы ў ім пачалася ранняя, а ў 8 — сярэдняя літургія. Праўда, частка "паломнікаў" накіравалася ў Свята-Багаяўленскі сабор, дзе ў гэты ж час вёўся вадасвятны малебен.

Незабыўнае ўражанне зрабіла святая літургія ў Сафійскім саборы.

Пасля яе пачаўся хрэсны ход ад Сафійскага сабора ў Спаса-Ефрасіньеўскі манастыр. І адбылося тое, з-за чагосабралiся ў гэты час у манастыры шматлікія вернікі і цікаўныя — хрэсны ход на саборнай плошчы. Ды не просты, а з мошчамі прападобнай Ефрасінні. Прабіцца праз шчыльныя рады людзей, якія атачылі дарогу ўдзельнікаў хрэснага ходу, было амаль немагчыма. Аўтар гэтых радкоў, напрыклад, змог разгледзець усё толькі з-за таго, што ўзабраўся на бетонную кветніцу. Цікава, што сярод моладзі, якая "ўзбілася" на яе, аказалася і старэнькая бабулька. Як жа яна вохкала, што ўзлезла так высока, як успамінала дзяцінства, як прыгадвала, што "яшчэ за царом" бацькі бралі яе на хрэсны ход. Але вось рака з мошчамі прападобнай завяршыла свой шлях і заняла належнае месца.

Пасля заканчэння хрысціянскай цырымоніі слова ўзяў Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Станіслаў Шушкевіч. Ён ад імя ўрада рэспублікі і парламента зачытаў прывітальны адрас мітрапаліту Мінскаму і Слуцкаму Філарэту і Сіноду беларускай царквы. У сваім выступленні ён заўважыў: "Наш час — своеасаблівы для лёсу Беларусі. Я высока цаню старанні царквы, якія накіраваны на выхаванне веруючых, станаўленне агульнаграмадскіх каштоўнасцяў, умацаванне сям'і. Я жадаю Беларускай царкве пасняхова ажыццяўляць сваю дзейнасць, быць і далей прыкладам брацкіх адносін паміж людзьмі розных нацыянальнасцей, служыць ідэалам дабра і справядлівасці."

Мікола БАГАДЗЯЖ.
Мінск—Заслаўе—Полацк—Мінск.

Фота С. БРУШКО.



Падпіска-93. Наш індэкс 63129.

## *Выратуем дзяцей*

* * *

Пра вынікі тэлемарафона "Выратуем дзяцей" не раз расказвалася на старонках друку. Вось яшчэ адно рэха гэтай незвычайнай па маштабах людской міласэрнасці акцыі. З тэлемарафонаўскіх грошай выдзелена 37,5 тысячы рублёў Ветрынскай сіроцкай школе-інтэрнату для набыцця спартыўнага абсталявання, 32 тысячы рублёў – мінскай школе-інтэрнату № 14 для глухіх дзяцей для набыцця тэхнічнага абсталявання, 50 тысяч рублёў – мінскаму дзіцячаму дому № 3 для спартыўнага абсталявання залы. А ўвогуле ў рамках праграмы Дзіцячага фонда "Цёплы дом" плануецца аказаць канкрэтную дапамогу многім сіроцкім установам рэспублікі.

* * *

Дэлегацыя юных парламентарыяў накіруецца днямі ў Данію. У групе – дзіцячы фальклорны ансамбль "Прыбужжа" брэсцкай школы № 5, юныя і ўжо сталыя мастакі, пачынаючыя фотамайстры. У дарогу ўпакавана хвалюючая фотавыстава "Чарнобыль і дзеці", дзіцячыя малюнкі і самаробкі. За мяжой будуць арганізаваны дабрачынныя канцэрты, кірмашы-продажы карцін, малюнкаў.

Дарэчы, у Даніі ўжо ўсё падрыхтавана для сустрэчы беларускіх гасцей. Жыць і адпачываць пасля канцэртаў дзеці будуць на віле жонкі і мужа Дысінг-Мадсэнаў – Элен і Дана. Яны – даўнія партнёры Дзіцячага фонда па супрацоўніцтву. Вось ужо другое лета (а зараз і восенню) прымаюць яны, як родных, дзяцей з Беларусі. Дысінг-Мадсэны далёка не мільянеры, якім бывае часам усё роўна, на якую канкрэтна міласэрную праграму пералічваць грошы. Даход сям'і прыносіць праца на віле, гаспадарка. Але ўкладзаць свае грошы Элен і Дан вырашылі ў аздараўленне дзяўчынак і хлопчыкаў з Беларусі, Румыніі. Дан Мадсэн знайшоў падтрымку сярод сваіх сяброў, суседзяў па віле, дапамогу фермерам пачалі аказваць мясцовыя прадпрыемствы, зусім невядомыя людзі. Выступленняў фальклорнага дзіцячага калектыву з Беларусі чакаюць.

* * *

Днямі скончыўся звышмарафон "Добрая вестка", прысвечан 1000-годдзю прыняцця Хрысціянства. Яго маршрут: Мінск–Нясвіж–Навагрудак–Маладзечна–Глыбокае–Полацк. Удзельнікі марафонскага бегу наведалі па дарозе дзіцячыя дамы і інтэрнаты, сустрэліся з выхаванцамі і перадалі падарункі, кнігі.

Падрыхтавала
Людміла Грамовіч.

# КРАІНА ДЗЯЦІНСТВА

***Кожную хвіліну на нашай зямлі нараджаецца дзвесце новых людзей.***

***Усяго толькі шэсцьдзесят кароткіх секунд, і дзвесце немаўлят уступаюць на парог свайго дзяцінства.***

***Маленькай кропляй у вялізным людскім моры будуць гэтыя хлопчыкі і дзяўчынкі, спрадвечныя пакутнікі свайго бязлітаснага лёсу...***



# Ў АБЛІЧЧЫ ПАКУТЫ

Здавалася б — навошта? За што? Хіба прырода страціла пачуццё прыгажосці і гармоніі? Ці не разумее, што пакутніцкі лёс гэтых яе насельнікаў — выродлівы твар самой прыроды? Старыя людзі заўсёды растлумачваюць: "Гэта Бог карае бацькоў... За грахі..." Божа міласцівы, хіба ёсць грэх, за які б такой бесчалавечнай была твая кара?..

...Яшчэ здалёку, выглядаючы праз лахматую зялёную сценку елак, футбольная пляцоўка вымусіла мяне спыніцца. Я бачыла (і не раз) сляпых мастакоў і глухіх музыкантаў. Я спачувала і спадзявалася, што яны і сапраўды малююць ружовымі фарбамі і спяваюць аб прыгажосці жыцця. Я заўсёды ведала, што чалавек у экстрэмальных і безвыходных умовах толькі тады і здольны сябе праявіць да канца. Так... Але ці здольна на такія выпрабаванні бесклапотная Краіна Дзяцінства?

...Хлопчыкі гулялі ў футбол. Са звычайнымі мячом, варотамі і іх "ахоўнікамі" і з прывычным балельшчыцкім "давай". Кульгаючы, момантамі ледзь не валючыся з ног, прызываючы на дапамогу ў чарговай атацы непаслухмяныя рукі, хлопчыкі "давалі". І вось ужо адзін з іх, падхапіўшы мяч, імкліва накіраваўся да варот, і ўжо толькі пасля гола, цяжкага і жаданага, зваліўся на зямлю, азіраючы астатніх гордай усмешкай пераможцы...

Дзіцячы цэрэбральны параліч — хвароба жудасная. І, магчыма, у першую чаргу, сваёй непераможнасцю. Яна закранае галаўны мозг, у выніку чаго гібне частка нервовых клетак, а тыя, як вядома, не аднаўляюцца. У выніку — параліч ног або рук. Як фактары, спадарожныя захворванню — рэчавыя, зрокавыя, слыхавыя парушэнні, затрымка псіхічнага развіцця. Можа развіцца алігафрэнія — глыбокая затрымка развіцця псіхікі. Вось такія дзеткі і трапляюць у Асіповіцкую спецыялізаваную школу-інтэрнат.

Сёння іх тут 182 чалавекі.

...Дзяўчынка гадоў васьмі прыемна вітаецца і адразу пытаецца: "А вы да каго?" — "Да вас" —імкнуся стрымаць на вачах слёзы, гледзячы на яе знішчаныя хваробай рукі. "А мы вас чакалі", — смяецца яна ў адказ і ўцякае. І ўжо пасля шматлікіх позіркаў, усмешліва-пытлівых і жудасна-балючых, я пачынаю разумець: тут чакаюць кожнага, знаёмага і незнаёмага, бо прыезд апошніх — нібыта своеасаблівая нітачка, якая звязвае гэтых дзяцей з шумным светам "за вокнамі", такім блізкім і такім далёкім адначасова...

У невялікім утульным кабінеце на другім паверсе размаўляю з намеснікамі дырэктара спецшколы В.С.Верабей і А.І.Бойкай. Агульная карціна жыцця школы-інтэрната атрымоўваецца такая: ужо каля трыццаці гадоў існуе гэтая ўстанова, адзіная на тэрыторыі Беларусі па лініі Міністэрства народнай адукацыі. На першы погляд, звычайная школа з "нармальнай" адзінаццацігадовай праграмай. Для дзяцей, у якіх назіраецца затрымка развіцця, існуюць дапаможныя класы. Але, акрамя прывычных усім нам заняткаў, хлопчыкі і дзяўчынкі праходзяць тут курс лячэння, накіраваны на рэабілітацыю асобы гэтых дзяцей.

З урачом ("вельмі кампетэнтным спецыялістам і добрым чалавекам", па словах завучаў) Нінай Цімафееўнай Калеснікавай праходзім па "медыцынскіх" калідорах інтэрната. Не адна пара пытлівых дзіцячых вачэй, у якіх і адчай, і надзея, і неабходная прысутнасць весялосці і бесклапотнасці маленькага чалавека суправаджае нас. Дзеці-заложнікі, дзеці-пакутнікі, а ў рэшце рэшт, проста дзеці, і таму з імі звычайны дзіцячы смех і свае сяброўскія тайны, і ветлівая сустрэча дарослых, і "вымушаная" паслухмянасць...

...У кабінеце лячэбнай фізкультуры ідуць заняткі. Трэнажоры Дзікуля, "сценкі" здароўя, велатрэнажоры і многія іншыя спартыўныя прыстасаванні — усё гэта па магчымасці развівае пашкоджаныя канечнасці маленькіх інвалідаў. Канешне, поўнага выздараўлення не дасягнуць, але і "глыбокага інваліда" з дзіцяці ўжо не будзе, бо разгул хваробы лячэбная фізкультура спыняе. Шырока выкарыстоўваецца і фізлячэнне — электрастымуляцыя, лекавы электрафарэз, токі высокай частаты, апараты электрасну. Двойчы ў гаду дзеткі праходзяць медыкаментознае лячэнне, а заняткі ў гідракабінетах увогуле з "абязалаўкі" пераўтварыліся ў любімае дзецьмі лячэнне.

І калі ўжо пра лячэнне, то, акрамя нядрэннай аснасчанасці кабінетаў і самаадданай працы медыцынскага персаналу — чатырох урачоў, дванаццаці медсясцёр і пяці санітарак, трэба нагадаць і пра іншы бок справы — абыякавы і безудзельны. Чыноўніцкія парогі часам не зжальваюцца над інвалідамі-дзецьмі, не чуюць іх стогнаў ад болю і крыкаў ад бяссілля, не бачаць іх знямоглых постацей і разгубленых твараў. Так, пакуль безадказнай застаецца папера, накіраваная ў адрас міністэрстваў аховы здароўя і адукацыі. А просьба — усяго нічога: дапамагчы школе-інтэрнату наладзіць праходжанне масажыстамі курсаў кропкавага масажу, бо апошнім яны не валодаюць, а ён хворым дзецям патрэбны абавязкова.

— Магчыма, у хуткім часе можа ўзнікнуць і яшчэ адна праблема, звязаная з перабоямі ў аптэчнай сетцы, а менавіта недахоп лекаў: цэрабралізіна, лідазы, рыбаксіна, антыбіётыкаў, — дзеліцца сумнымі думкамі Н.Ц.Калеснікава. — Адсутнасць гэтых лекаў для нашых дзяцей проста немагчыма...

Штогод школу-інтэрнат наведваюць прадстаўнікі Мінскага артапедычнага завода. Здымаюць меркі, па якіх выпрабляецца спецыяльны артапедычны абутак. Згодна з існуючай інструкцыяй, на аднаго чалавека ў год выдзяляецца пара зімовага і пара летняга абутку. Калі гэтая пара раней чым за год зносіцца, інструкцыя можа трохі "саступіць", і дзіця атрымае яшчэ адну пару, але толькі адну. Чамусьці не ўзялі на ўвагу бацькі падобных інструкцый той факт, што многія дзеці, якія перанеслі ДЦП, ходзяць ці, дакладней, перасоўваюцца, падцягваючы нагу, а таму тэрміны ноські абутку вызначыць складана. Ды і ці гуманна нешта вызначаць у бок абмежаванасці людзям з такім складаным лёсам? Можа хаця б ім, інвалідам, паспрабаваць стварыць жыццё без нашай агульнай "папраўкі на беднасць"?

...Старшакласнікі, асабліва дзяўчаты, з нейкай сарамлівасцю глядзяць у бок незнаёмых. Саромеюцца свайго фізічнага недахопу? А можа, параўноўваюць сябе з тымі, у каго ёсць тое, чаго пазбаўлены яны, — жаласна-пакутлівы позірк іх вачэй няўмольны і непрацяглы. Яны ўжо добра ўсвядомілі, што з імі адбылося, але ці могуць яны, маладыя, згадзіцца з такім горкім для сябе выбарам прыроды? А яна "падкідвае" новыя выпрабаванні: і першым яшчэ робкім юнацкім пачуццям ужо не патрэбна нават тая адзіная на сезон непрывабная пара артапедычнага абутку...

...Па лесвіцах школы-інтэрната шумна ўніз-уверх перабіраюцца дзеці. У класы, у кабінеты ЛФК, у сталоўку, у басейн. Чулыя і спагадлівыя людзі разам з імі — выхавацелі, настаўнікі, урачы, медсёстры, прыбіральшчыцы. Іншыя тут проста не працавалі б — не вытрымалі. Вось скончыўся ўрок і ўжо за ім наступны, на якім хлопчыкі і дзяўчынкі будуць працягваць свой шматгадовы шлях па краіне ведаў. Вось "адкаталіся" дзеці на велатрэнажорах і час ісці на гідрамасаж. Што ж, школа-інтэрнат сумленна займаецца "рэабілітацыяй інваліда".

Колькі разоў ужо прыходзілася гэта чуць — рэабілітацыя... Толькі чамусьці заўсёды разумелася рэабілітацыя, гэтак бы мовіць, медыцынская. Актывізацыя дзейнасці мышцаў, суставаў... Усё гэта так. Але ці толькі адно гэтае можа забяспечыць вяртанне чалавека ў паўнацэннае грамадства? Ці не адчуванне інвалідам сваёй, хаця і невялікай, але патрэбнасці грамадству і будзе той самай рэабілітацыяй, пра якую клапоцяцца і ўрачы, і педагогі?

Дзяўчынка гадоў васьмі, якая адразу спытала ў мяне, да каго я прыйшла, здзівіла сваім па-дзіцячаму наіўным "а мы вас чакалі...". Дзяўчынка амаль без рук, з невялічкімі кулачкамі адразу каля локця і некалькімі пальчыкамі на іх, як аказалася, вельмі добра вяжа! Вось вам і злашчасная хвароба! У дзяўчынкі ніколі не было і не будзе рук, а яна вяжа, вяжа сваімі рукамі!

Як расказвалі мне Вольга Сямёнаўна Верабей і Антаніна Іванаўна Бойка, ёсць нават выпадкі яшчэ больш уражлівыя — вяжуць і з адной рукой. Асвойваюць машынапіс, справу кінамеханіка. А ўвогуле працуе цэлая сетка гуртакоў: мяккай цацкі, умелыя рукі, радыёгурток, аплікацыі, вязання, драматычны, выяўленчага мастацтва, фотагурток і шмат іншых. Ёсць і свае вынікі, і поспехі: другое месца ў абласным конкурсе мастацкай самадзейнасці, удзел у міжнародных спаборніцтвах у Францыі, Балгарыі і 13 залатых медалёў.

— Далейшы лёс нашых выпускнікоў хутчэй за ўсё "дамаседскі", — расказвае завуч А.М.Бойка. — Калі раней дзеці маглі паехаць вучыцца ў Расію ці на Украіну — там ёсць тэхнікумы і вучылішчы для людзей з захворваннямі ДЦП — і атрымаць адукацыю, пасля чаго ўладкавацца і працаваць, то цяпер гэта немагчыма. А ў Беларусі няма ніводнай падобнай навучальнай установы...

І карціна атрымліваецца сумная: два-тры чалавекі ўсё ж знаходзяць нейкую працу, астатнія — толькі надомны занятак. Скажам, вязанне, вышыванне, сапожніцкія справы, нескладаная слясарная праца. Бывалі, праўда, выпадкі, калі хтосьці з выпускнікоў паступаў нават і ў вышэйшыя навучальныя ўстановы, але іх можна пералічыць па пальцах.

— А чаму б пры нашых тэхнікумах, вучылішчах не адкрыць спецыяльныя аддзяленні для такіх людзей, каб яны маглі атрымаць прафесію і адчуць сваю патрэбнасць грамадству, — заканчвае думку Антаніна Іванаўна.

...Дзетак з Асіповіцкай спецшколы-інтэрната трэба (зноў жа згодна з інструкцыяй) два разы на месяц вазіць у Мінск, у НДІ траўматалогіі. Аднак... Прычына больш чым празаічная — няма транспарту. Той аўтобус, якім інтэрнат валодае, даўно ўжо належыць спісанню і мае дваццаць два гады. І, як сказаў намеснік дырэктара па гаспадарчай частцы У.І.Шведаў, прадстаўляе небяспеку для пасажыраў. Таксама, як і інтэрнацкі УАЗ, разлічаны на пераезды па гораду, раёну. Абяцалі інтэрнату выдзеліць новы транспарт, але абяцанкі абяцанкамі і засталіся. А дзеткі чакаць не могуць. І застаецца ім толькі спадзявацца на міласэрнасць і велікадушша "багатых дзядзькоў", якія могуць дапамагчы канкрэтнымі справамі і тым самым сапраўды раздзяліць цяжкую ношу бездапаможнага інваліда. І хаця цяпер і багатыя плачуць, але ўсё ж слёзы хворага, дзіцячыя слёзы больш салёныя і менш хлуслівыя.

І бесперапынныя, як доўгія восеньскія дажджы..

...Калі ласка, спыніцеся і паглядзіце на гадзіннік! Адкладзіце на хвіліну ўсе справы, адкіньце турботы, спыніце мітусню і паназірайце за стрэлкай свайго гадзінніка, калі ласка.

Прайшла хвіліна?

Гэта значыць, дзвесце новых людзей уступілі на парог свайго дзяцінства. Дай Бог ім ніколі не ведаць хвароб!

Майя ШЭНДРЫК,
аглядальнік "ЧЗ".

***P.S. Нядрэнна было б больш увагі ў бок Асіповіцкай спецшколы-інтэрната звярнуць і фондам — дзіцячаму, міласэрнасці. А таксама тым, хто бліжэй усяго знаходзіцца да заходняй гуманітарнай дапамогі.***

